# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 П. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUSČYNA" („VATERLAND")
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušćyna" („Das Vaterland"),
(13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS", Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка л...іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "THE FATHERLAND"

№ 1-2 (485-486) Праваслаўныя Каляды, 1960 г. ГОД ВЫДАНЬНЯ 14

# *Божай Міласьцю*

## *Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакэфальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне*

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРАПАДОБНАГА МАНАСТВА, І ЎСІХ БОГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НАШЫХ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ**

# Каляднае Пасланьне

«І НАРАДЗІЛА Марыя Сына Свайго, ІСУСА ХРЫСТА, і палажыла Яго ў ясьлі» (Лк. 2,7).

## Улюбленыя Дзеці Нашыя!

Гэтую радасную навіну аб Нараджэньні Госпада нашага Ісуса Хрыста абвесьцілі Ангелы Віфлеемскім пастыром, пяючы хвалу Яму: «Слава на вышынях Богу, і на Зямлі супакой людзям добрае волі» (Лк. 2,14). Зь вялікаю радасьцю пасьпяшылі пастыры ў Віфлеем і там у пячэры знайшлі Марыю зь Язэпам і Дзіцятка, што ляжала ў ясьлях: «Угледзіўшы-ж, расказалі аб тым, што было абвешчана ім пра Дзіцятка гэтае» (Лк. 2,17).

Вось так слаўна споўніў Айцец наш Нябесны Сваё абяцаньне ўжо Адаму й Эве пры іхным сумным выхадзе з Раю: ХРЫСТОС, Збаўца наш, НАРАДЗІЎСЯ! Неба й зямля радуюцца, людзі весяляцца! І Гасподзь Міласэрны ўдастоіў нас і ў гэтым гаду дачакацца й спатыкаць гэтае Велічнае Сьвята РАСТВА ХРЫСТОВАГА, каб мы радаваліся радасьцю поўнаю, Божаю, і праслаўлялі Дзіцятка, падобна Ангелам, у сьв. Храмах, у дамох і ў сэрцах сваіх.

Бо-ж гэта радасьць кажнага чалавека добрае волі, кажнае добрае хрысьціянскае душы, кажнага з нас, як і вучыць нас сьв. Апостал Павал: «Калі-ж прыйшла поўня часу, Бог паслаў Сына Свайго, Каторы Нарадзіўся ад Прачыстае Дзевы Марыі, каб нам узяць УСЫНАЎЛЕНЬНЕ. А як вы сыны, дык Бог паслаў у сэрцы вашыя Духа Сына Свайго, Каторы ўсклiквае: Авва, Ойча. Таму ты ўжо ня раб, але сын, а калі сын, дык і спадкаемнік Божы празь Ісуса Хрыста» (Гал. 4,4—7).

А мы добра ведаем, як радуецца раб, стаўшы вольным, тым болей радуемся мы, звольненыя ад улады нашага нявольніка, злога духа. Ды ня толькі звольненыя, але й прынятыя Богам як Ягоныя любыя сыны й дочкі! Як-жа нам ня радавацца, ня весяліцца, і ня дзякаваць Госпаду Богу фіміамам любові свае за Ягоную бязьмежную любоў да нас, дзякуючы якой Сын Божы прыйшоў да нас, каб падараваць нам збаўленьне!

І ня дзіва, што ўсе хрысьціянскія народы так урачыста рыхтуюцца да вялікае, слаўнае, ціхае Ночы НАРАДЖЭНЬНЯ СЫНА БОЖАГА. Усюды ўжо наперад праяўляецца радасны сьвяточны настрой. Нашая сьв. Праваслаўная Царква ўжо наперад напаўняе душы вернікаў сваіх сьвятлом Зоркі Віфлеемскае, натхнёна сьпяваючы ХРЫСТОС РАДЖАЕЦЦА — ЯГО СЛАЎЦЕ! Хрыстос зь Нябёсаў — сустракайце! Хрыстос на зямлі — увазносьцеся! Сьпявай Госпаду ўся зямля, і людзі вясёла засьпявайце, бо Хрыстос праславіўся! (Калядны Ірмас).

І ўсе народы, кажны пасвоему, праслаўляюць Народжанае Дзіцятка, Хрыста, Бога нашага, але наш Беларускі Народ праяўляе да Яго хіба найбольшую любоў, ускладае на Яго найбольшыя надзеі на сваю сьветлую будучыню. У нас на Беларусі хіба няма адной хаты бязь ясьляў Дзіцятка ў Сьвяты Вечар, а цяпер таксама на катаргах і высылках, у лясох і пушчах ды на выгнаньнях! Так, наш пакутны Народ усюды сустракае Дзіцятка Божае, становіцца на калені перад Ім, аддае Яму хвалу й славу. І мы верым, што Ён, Хрыстос, Бог і Спас наш, прабывае на Сьвятой Вячэры ў кажнай хаце, зь любоўю прыймае шчырыя дары церпячых сэрцаў нашых Вротоў і Сёстраў, як Ён Сам сказаў: «Вось Я стаю пры дзьвярох і стукаюся, і хто пачуе голас Мой і адчыніць дзьверы, Я ўвайду да яго, і буду вячэрыць зь ім, а ён зы Мною» (Адкр. 3,20).



Таму, любыя дзеці нашыя, калі мы сьпяваем у Сьвяты Вечар: З намі Бог!, Разумейце паганы й пакарайцеся, бо з намі Бог!, дык душы нашыя перажываюць радасьць нявымоўную, весяляцца падобна Ангелам, бо-ж зь імі ўжо Сам Бог прабывае, і радасна прамаўляе: «Дзе Я, там і слуга Мой будзе! Яго ўшануе Айцец Мой!» (Іо. 12, 26). Таму будзем радавацца й весяліцца! Будзем славіць Новаараджанае Дзіцятка, нашае шчасьце й збаўленьне. Няхай ніякія сучасныя Ірады не засмучаюць гэтае радасьці душаў нашых. Канец іхны ўжо блізкі, бо гэта той куколь, які неўзабаве будзе сабраны й кінуты ў печ вагністую на пагібель, як сказаў Сам Збаўца наш (Мц. 12,38—42), а мы ўсе, што верым у Яго, зазьзяем як сонца ў Царстве Айца нашага Нябеснага (43), ды ўжо тут на зямлі: «Возьмем зямлю ў валаданьне, і жыць будзем на ёй навекі» (Пс. 37,29).

І з гэтаю радасьцю, і з палымянаю Вераю й Любоўю, і Надзеяй на Новаароджанага Бога й Спаса нашага, вітаем вас усячэсныя Айцы, і любыя Браты й Сёстры ўсюды: на выгнаньнях, удома, на катаргах і высылках, у лясох і пушчах зь вялічным і слаўным Сьвятам РАСТВА ХРЫСТОВАГА й з надыходзячым НОВЫМ ГОДАМ. Жадаем усім вам, каб гэтая радасьць Нябесная была ў сэрцы кажнага з вас, і пасылаем усім вам нашае Архіпастырскае благаславенства. Цьвёрда веруйце ў Госпада нашага Ісуса Хрыста, паводля словаў Яго: «Няхай ня сумляваецца сэрца вашае, веруйце ў Бога й у Мяне веруйце» (Іо. 14,1), і нашая любая пакутніца Маці-Беларусь народзіцца да новага, вольнага й шчасьлівага жыцьця, каб быць з Богам ужо навекі.

Ласка і Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прысутнасьць Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

**Пакорны Архіяпіскап СЯРГЕЙ**
Галава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

**Пакорны Архіяпіскап ВАСІЛЬ**
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне

Дана Году Божага 1959, месяца сьнежаня, Аўстралія—Амэрыка.

**Усіх праваслаўных Беларусаў віншуем зь вялікім сьвятам Нараджэньня Хрыста!**

# КАЛЯДЫ

Ужо некалькі год даводзіцца мне разам з другімі эмігрантамі сьвяткаваць Каляды ў З.Ш.А. Каляды тут, хіба не памылюся, зьяўляюцца адным з найбольшых сьвятаў, якое абходзіцца цэлым кангламэратам усіх народаў, што жывуць тут. Прыгатаваньні да гэтага сьвята пачынаюцца амаль зараз-жа пасьля папярэдніх Калядаў, каб зрабіць на хвабрыках усё тое, што ўжываецца на падарункі, упрыгожваньні цэлае дзяржавы ды тых павіншавальных картак у ліку няведамых мне мільёнаў. Аб прадукцыі сьвяточнае еміны ня прыходзіцца гаварыць, бо ў гэтым сэньсе тут Каляды бываюць для ўсіх круглы год. Таму галоўны эфэкт у сьвяткаваньні выяўляецца ў вонкавай аздобе, падарунках ды рэлігійных службах у хрысьціянскіх сьвятынях. Амаль усе прыватныя дамы й гарадзкія інстытуцыі маюць сьвяточныя ўпрыгожаньні. Асабліва ўнівэрсальныя магазыны ўпрыгожваюць свае вітрыны рознымі рухомымі сцэнамі жывёлаў і дзіцячых цацак, што вабяць цэлыя натоўпы дзяцей з бацькамі ды наагул старэйшае грамадзтва. Гіганты-яліны, што ставяцца ў публічных месцах з сотнямі рознакаляровых электрычных лямпачак і другіх каляровых упрыгожваньняў,завяршаюць сьвяточную аздобу. Каляднае ажыўленьне пачынаецца тут ад пачатку сьнежня й цягнецца да Новага Году.

Назіраючы цудоўны прабег Калядаў у З.Ш.А., дзе ўсе народы у гэтым ліку й Беларусы, свабодна выяўляюць свае культурныя й бытавыя асаблівасьці, мімаволі прыпамінаюцца па асацыяцыі тыя ўмовы й сьвяткаваньні Калядаў ў родным краю пяцьдзесят год таму назад. Выдаецца, што гэтыя юнацкія сьвяткаваньні адбыліся не паўстагодзьдзя, але толькі некалькі год таму назад, бо набытыя рэфлексы тадышніх перажываньняў заўсёды пры адпаведнай нагодзе рэпрадукуюцца з усімі дэталямі напэўна таму, што прыемныя мамэнты на фоне шэрага каляніяльнага жыцьця ўтварылі моцныя дыспазыцыі ў маёй сьвядомасьці. Фіксую некалькі фактаў з даўнейшых умоваў і сьвяткаваньняў Калядаў.

Гэта былі апошнія гады царска-расейскага панаваньня на Беларусі, калі расейская імпэрыя пахіснулася пад уплывам некарысных вынікаў для яе Расейска-японскае вайны й дэспатычная ўлада імпэрыі змушаная была зьняць забарону друку беларускаю моваю. Ад гэтага часу ў беларускі вызвольны рух уліліся й актыўна пачалі дзеяць прадстаўнікі беларускага сялянства, што выдала з свайго асяродзьдзя нацыянальных волатаў-будзіцеляў на чале зь Я. Купалам і Я. Коласам. Магутнае калісь беларускае слова, якое было загнанае панявольнікам у сялянскія хаты, пачало рунець гэтак, як каля двух тысяч год таму назад зарунела ідэя дабра й любові сярод народаў сьвету ў розных мовах. Калі больш як стагадовае нявольніцтва беларускага народу давяло тады яго інтэлігенцыю да мінімуму, дык сяньня беларуская інтэлігенцыя тысячамі культывуе беларускае слова, пачынаючы ад пачатковых школаў да найвышэйшых навучальных і навуковых установаў на бацькаўшчыне і ў цэлым сьвеце. Цяжка было прадбачыць такі прагрэс пяцьдзесят год таму назад, калі ўся Беларусь, як Заходні край, была падзелена на губерні, уезды й воласьці зь расейскімі паліцэйскімі й адміністрацыйнымі ўрадаўцамі на чале з каляніяльнымі губэрнатарамі й урадаваю моваю расейскаю. Да гэтае ўлады далучалася праваслаўнае духавенства, на абавязку якога ляжала

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

## *Гавораць дакумэнты*

# Перад Слуцкам і пасьля Слуцку

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

### ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ БЕЛАРУСКІХ ПАРТЫЗАНАЎ ПАД ПОЛЬСКАЙ АКУПАЦЫЯЙ

(Дакумэнты ўзятыя з архіву Рады БНР)

**Рапарт камандуючаму IV групай**

Згодна пэрсанальнага распараджэньня начальніка аддзелу Гэрмана Скамароха, дакладваю аб яго дзеяньні.

1) Ноччу зь 19-га на 20-ае красавіка г. г. распараджэньнем атамана Скамароха начальніку атрада тэрарыстых Чорнаму Ворану — загадана спаліць дзераўянны мост на рацэ Нараўка, што на стаўпавой дарозе ў горад Белавежа. Загад выкананы таго-ж чысла.

2) Атрымаўшы весткі з контра-разьведкі, што польскае лясьніцтва, распаложанае ў мястэчку Белае, Белавескага павету, займаецца шпіянажам у карысьць польскай улады, загадаў расьследзіць гэту справу й прыняць меры. Расьсьледаваньнем устаноўлена, што весткі былі праўдзівыя, але ўрадоўцы — людзі сямейныя, дзеля гэтага ім пакінута жыцьцё, канфіскавана маемасьць. Налёт праводзіў начальнік аддзелу тэрарыстых Чорны Воран.

3) З данясеньняў контра-разьведкі было даведзена, што паліцыя гор. Кляшчэль, блізка вузлавой станцыі Чарэмхі, творыць насільле над арыштаванымі Беларусамі, дзеля чаго атаманам Скамарохам быў даны загад атаману аддзелу тэрарыстых — У. Чорту правесьці налёт на згаданую паліцыю, што было і выканана ноччу з 28-га на 29 красавіка. У выніку двох паліцэйскіх расстраляна, аднаго выпусьцілі дзеля яго абыякавасьці па адшошаньню да польскай улады й няпрычыннасьці да справы. Рэшта былі ў адлучцы або ўцяклі. З трафэяў: 2 коней, 10 вінтовак, звыш 5000 патронаў, 8 бомбаў, амуніцыя, 7 шынэляў і іншае дробнае майно.

4) Ноччу на 1-га мая атаман Скамарох залёг зь невялікім атрадам блёк-пост чыгункі Чэхі, што на лініі Чарэмха—Вільш, ад Чарэмхі 10 вёрстаў. З блёкпосту Чэхі адпраўлена тэлеграма Н-ку Польшчы — Пілсудскаму, копія якой пры гэтым далучаецца.

Адначасова была пры гэтым папсута лінія чыгункі ў 3-х вёрстах ад блёкпоста з мэтай затрымаць кур'ерскі цягнік. Апэрацыямі кіраваў атаман Скамарох.

2. V. 1922 г. п. п. Раённы атаман Бельскага павету

(пячаць) (—) подпіс
Начальнік штабу IV групы

**Тэлеграма**

**Варшава, Начальніку Польскае Дзяржавы, п-ну Пілсудскаму**

Гэтым пытаемся ў Вас, Пане Пілсудскі, чым тлумачыцца неатрыманьне адказу на наш ультыматум, пасланы Вам 31-га сакавіка г. г.? Дзеля таго яшчэ раз напамінаем аб нашым ультыматуме, дзе гаварылася, каб польская ўлада прызнала Беларускую Дзяржаву як незалежную й зьняла свой акупацыйны апарат з нашага Краю.

У выпадку адмовы, або нежаданьня адказваць на нашы вымогі, папераджаем, што прыступім да зьнішчаньня паліцыі, жандармэрыі, польскай арміі шляхам прымяняньня розных труцізнаў.

Акружны Атаман
пдп. Гэрман Скамарох

Н-к штабу беларускіх партызанаў
палкоўнік Качубей

Ад'ютант штабу (подпіс нячытэльны)

1-га траўня 1922 году.

(Пераклад з расейскага)

**Начальніку Польскае Дзяржавы
П-ну Ю. Пілсудскаму, Варшава.**

**Копія п-ну Старшыні Лігі Нацыяў**

**Ад Акруговага Атамана Беларускіх партызанаў грамадзяніна
Гэрмана Скамароха, Беларусь,
Рухомы канспіратыўны штаб.**

Дзеля таго, што мэта якую сабе паставіла наша беларуская вайсковая арганізацыя — вызваліцца зь вяковае няволі й прыгнобленьня ды з пад сучаснай акупацыі — ня ёсьць сакрэтам для польскіх уладаў, ня можа таму быць і сакрэтам тое, што мы зьяўляемся ворагамі польскай акупацыі, але зусім мы не зьяўляемся ворагамі польскай улады ў Польшчы.

Мы ўпаважненыя ад пятнаццаці тысяч партызанаў ды ўсяго сялянства Беластоцкага, Бельскага, Берасьцейскага, Ваўкавыскага й Пружанскага паветаў зьвярнуцца да Вас, п. Пілсудскі, і праз Вас да ўсіх Палякаў, аб прызнаньні нашых ніжэй пералічаных законных вымогаў.

1) У імя справядлівых людзкіх правоў адмовіцца ад прэтэнзіяў на Беларусь і прызнаць яе правы самавызначэньня як нацыі.

2) Безадкладна спыніць жорсткія рэпрэсіі над Беларусамі, а таксама спыніць апячатваньне праваслаўных цэркваў, арышты сьвятароў, вобыскі, зьбіваньне палітычных дзеячоў ды прызнаць недатыкальнасьць да ўсяго беларускага.

3) Неадкладна звольніць зь вязьніц усіх арыштаваных палітычных вязьняў-Беларусаў.

4) Неадкладна спыніць высяканьне беларускіх лясоў і іх вываз у Польшчу, а таксама спыніць вываз зь Беларусі ўсякага іншага дабра.

5) Безадкладна прыступіць да падрыхтоўкі эвакуацыі польскіх вайсковых аддзелаў, жандармэрыі, тайнай і яўнай паліцыі.

6) Дзяржаўныя ўстановы й іх майно павінны быць поўнасьцяй перададзены, як і народныя банкі на беларускіх землях — Беларусам.

7) Безадкладна стварыць зьмешаную камісію, для перадачы розных справаў і рашэньня экстэрных пытаньняў.

Калі вышэйпералічаныя ўмовы ня будуць прынятыя Польскім Урадам, будуць яшчэ пасілены рэпрэсіі, арышты й розныя перасьледваньні Беларускага Народу, то мы голасна заяўляем, што за насьледкі якія-б яны ня сталіся, мы не адказваем.

Мы ня хочам Вам пагражаць, але папярэджваем, што няпрызнаньне нашых законных вымогаў пацягне за сабой жорсткія для Палякаў насьледкі. Мы змусім загаварыць аб сабе цэлы сьвет. Мы прыймем найбольш зьнішчальныя сяродкі акупантаў, паколькі з рэгулярнай арміяй нам цяжка змагацца ў вадкрытым баі.

Вы закрычыце аб нашых зьверствах і нягуманнасьці, але-ж мы «мужыкі», «лапцюжнікі» . . . Тады вы ацэніце нашы галовы даражэй як па 50 000 марак, як гэта цэніце цяпер.

Вы паруліцеся арыштаваць ня толькі нашых жонак, Вы арыштуеце старых: бацькоў і матак. Вы вынайдзеце яшчэ больш удасканаленыя мэтады мучыць арыштаваных, ня толькі выкручваючы рукі, заганяць пад ногці голкі, кусаць за сьпіну, але яшчэ «шляхатней» і мудрэй за гэта, ды ўсё гэта ня выратуе вас ад помсты.

Мы верым, што рана ці позна дасягнем вызваленьня й пераможна ўзьнясём наш штандар над сваёй Беларускай Народнай Рэспублікай.

Мы верым, што ўся рэшта цьвяроза думаючая Польшча і ўвесь сьвет, на нашым баку. Мы будзем чакаць мірнага палагоджаньня нашых вымогаў, катарым вы нас абрадуеце праз польскую й замежную прэсу. Апошні тэрмін Вашага адказу — 9-га красавіка ст. стылю. Калі-ж прэса абыйдзе маўчаньнем, гэта будзе азначаць прадоўжаньне нашага змаганьня за вызваленьне Беларусі ад польскага насільля.

Да Вас, Пан Старшыня Лігі Нацыяў, зьвяртаемся мы, Беларусы, і просім не дапусьціць далейшага над намі насільля, мы дамагаемся нашай незалежнасьці й свабоды.

Атаман Горадзеншчыны І. Скамарох — (подпіс)

Выконваючы абавязкі Н-ка штабу беларускіх партызанаў — палкоўнік (подпіс)

Ад'ютант — (подпіс)
30 сакавіка 1922 г., Д. Ш. Беларусь.

# Амнэстыя ў БССР у 1924 годзе

У № 565 расейскай эміграцкай газэты «Дни» за 16 верасьня 1924 году, якая перахоўваецца ў парыскай Францускай Нацыянальнай Бібліятэцы, а трэба думаць, што і ў шмат якіх іншых бібліятэках, — знаходзім адну кароценькую, але вельмі вымоўную зацемку аб «Амнэстыі ў Беларусі», зьмест якой падаём у даслоўным перакладзе на беларускую мову:

**«У савецкай Беларусі абмешчаная амнэстыя для «паходзячых з працоўнага асяродзьдзя», якія прыймалі ўдзел у антысавецкіх нацыянальных фармацыях 1918—1920 гг., беларускім палітычным і культурным дзеячом, што прыймалі ўдзел у гэных фармацыях, і сябром беларускіх нацыянальных урадаў, якія пэрсанальна ня прыймалі актыўнага ўдзелу ў вайне з савецкай уладай, калі яны абвесьцяць цяпер публічна аб сваім ляяльным дачыненьні да апошняй. Амнэстыя пашыраецца таксама і на былых сяброў розных палітычных партыяў, якія зробяць гэтакую-ж заяву, і на беларускіх сялян 'уцягнутых у бандыцкія шайкі ці сядзейнічаючых зь імі'.**

**Амнэстыя не пашыраецца на арганізатараў атрадаў і іх камандны склад».**

Вымоўным і характэрным у гэтай «амнэстыі» зьяўляецца тое, што калі бальшавікі сяньня ўва ўсёй сваёй прапагандны ды «навукова-гістарычнай» літаратуры заўсёды прадстаўляюць справу захопу ўлады ў Беларусі самым беларускім працоўным народам, а беларускі нацыянальна-вызвольны рух — справай «кучкі беларускіх абшарнікаў із Ськірмунтам на чале, якіх беларускі народ выкінуў», то ў амнэстыі гэтай бальшавікі, не аддзеленыя так далёка часам ад збройнага змаганьня зь Беларусамі, не маглі ў 1924 годзе так нахабна лгаць, як сяньня.

У амнэстыі гэтай бальшавікі выразна прызнаюцца, што:

1) Беларускія нацыянальна-вызвольныя фармацыі складаліся зь Беларусаў, «паходзячых з працоўнага асяродзьдзя», і што **фармацыі гэтыя былі дзейныя на працягу двух год;**

2) урады БНР, пачынаючы ад 1-га ўраду Варонкі, потым Луцкевіча й Ластоўскага, разглядаюцца ў гэнай амнэстыі як **беларускія нацыянальныя ўрады** (бо-ж не адзін урад, але ўрады);

3) прызнаецца ў гэнай амнэстыі й існаваньне **некалькіх** (не аднэй) беларускіх палітычных антыбальшавіцкіх партыяў, лідары якіх прызнаюцца за людзей «з працоўнага паходжаньня», паколькі яны падлягаюць амнэстыі, прызначанай іменна толькі для «паходзячых з працоўнага асяродзьдзя».

Цікавай зьяўляецца кляўзуля «амнэстыі», што яна «не пашыраецца на арганізатараў атрадаў і іх камандны склад». У сучаснай, як нам ведама, «амнэстыі» СССР, якую так газартна прапагуе сярод нас «Камітэт за вяртаньне на радзіму», бальшавікі больш шчодрыя. Яны навет «амнэставалі» й аднаго з правадыроў Слуцкага паўстаньня Сокал-Кутылоўскага, які ў 1924 годзе амнэстыі не падлягаў-бы.

Вось-жа тут, на нашую думку, могуць быць толькі дзьве прычыны:

1) або што тагачасныя бальшавікі ня мелі найменшай надзеі, што гэныя арганізатары атрадаў і іх камандны склад прыймуць іхную амнэстыю й вернуцца зь лесу (а ў лясох, паводля афіцыяльнай справаздачы Саўнаркому БССР увосені 1924 г. налічвалася яшчэ «40 бэнэраўскіх бандаў»);

2) або прыймаючы пад увагу агульныя антыбальшавіцкія настроі беларускага «працоўнага насельніцтва», было вельмі рызыкоўным для бальшавікоў дапусьціць да легальнага, хоць-бы навет і часовага, кантакту гэных арганізатараў з насельніцтвам.

У кажным выпадку зьяўляецца для нас цікавым і абсалютна ясным, што бальшавікі выразна прызнаюцца ў гэнай амнэстыі, што ў сваей захопніцкай палітыцы ў 1918—20 гг. ім даводзілася весьці вайну ў Беларусі **з фармацыямі, што складаліся з «працоўнага асяродзьдзя» беларускага народу.**

**М. А.**

## КАМУНІКАТ

**Лігі Вызваленьня Народаў СССР — Парыскага Блёку**

**19—22 сьнежаня 1959 году ў Мюнхэне адбылося чарговае паседжаньне Выканаўчага Камітэту Лігі — Парыскага Блёку.**

**Пасьля абмену думкамі аб міжнародным палажэньні, на паседжаньні было абмеркаванае пытаньне аб узаемадачыненьнях з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня, якія, паводля агульнай думкі, вымагаюць значных палепшаньняў.**

**Крызіс, які наступіў у гэтых дачыненьнях, быў зьвязаны, галоўным чынам, з пытаньнем аб перадачах праз радыё паведамленьня аб ведамай Рэзалюцыі Кангрэсу ЗША ў справе паняволеных народаў і выдадзенага пасьля гэтага Маніфэсту Прэзыдэнта Злучаных Штатаў аб устанаўленьні Тыдня Паняволеных Народаў.**

**Паседжаньне яшчэ раз пацьвердзіла, што Ліга ў ніякім выпадку ня можа зьмірыцца із спробай затушаваць гэтыя важныя гістарычныя ліпенскія акты Кангрэсу ЗША.**

**У выніку ўсебаковага абмеркаваньня гэтага пытаньня Ліга прыйшла да высьнаву, што неабходна ўстанавіць новыя нормы для рэгуляваньня ўзаемадачыненьняў з Амэрыканскім Камітэтам.**

**З гэтай мэтай Выканаўчы Камітэт Лігі выпрацаваў праект пагадненьня, які прапануецца ўвазе Амэрыканскага Камітэту.**

**Прэзыдыюм Лігі**

# Каляды

(Заканчэньне з 1-ай бач.)

ня толькі духовая, але й русыфікатарская апека над беларускім народам.

Малыя надзелы зямлі з часу скасаваньня прыгону, адсутнасьць хвабрычнай прамысловасьці на Беларусі, як калёніі вызыску, утварылі цяжкія ўмовы матар'яльнага жыцьця для беларускіх сялянаў на гаспадарках, што з прыростам насельніцтва хутка драбіліся. Таму Беларусы змушаныя былі шукаць куска хлеба ў Амэрыцы, Сібіры або ў парабкох памешчыкаў, што ў значнай колькасьці былі насланыя з Расеі ды надзеленыя вялікімі абшарамі беларускае зямлі за ўсякія каляніяльныя выслугі. Ад сонца Беларус змушаны быў бязь ніякае сацыяльнае апекі працаваць у памешчыкаў за мінімальную плату пад прыгонам эканомаў і цівуноў.

Школьная сыстэма на Беларусі — калёніі была ўбогая. Унівэрсытэтаў зусім ня было. Сярэднія школы (расейскія) былі пераважна ў губэрнскіх гарадох. Яны былі даступныя толькі для памешчыкаў, духавенства й чыноўнікаў калёніі. Беларускае сялянства, калі магло, карысталася толькі расейскімі (беларускія былі забароненыя) пачатковымі школамі, што былі пры воласьцях і цэрквах (царкоўна-прыходзкія школы) ды лічанымі настаўніцкімі сэмінарыямі й вышэйшымі 4-гадовымі пачатковымі школамі, якія былі ў павятовых гарадох і большых мястэчках. Некалькі 2-гадовых расейскіх настаўніцкіх інстытутаў ачольвалі школьную сыстэму на Беларусі. Абавязку школьнага ня было й таму абсалютная большасьць беларускіх дзяцей пачатковых школаў не наведвала, бо пры рэдкай школьнай сетцы дзецям трэба было хадзіць па некалькі кілёмэтраў, што ў зімовую пару было для іх не пад сілу. Навука ў пачатковых школах пачыналася пасьля Пакроў і канчалася перад Вялікаднем з прычыны актыўнага ўдзелу дзяцей у гаспадарскай працы.

Такія матар'яльныя й духовыя ўмовы паняволенага жыцьця беларускага народу вытварылі ў яго псыхіцы цярплівасьць, выносьлівасьць, працавітасьць, ашчаднасьць, любоў да свае гаспадаркі ды замкнутасьць перад адвечным панявольнікам «старэйшым братам».

Глыбокая рэлігійнасьць беларускага народу цесна была зьвязаная зь яго працаю, што мянялася ў залежнасьці ад пораў году. Вось-жа сьвяткаваньні Калядаў адбываліся ў рэлігійных і бытавых абставінах. Надыход Калядаў папярэджваўся постам-Піліпаўкаю. Піліпаўка для беларускага селяніна была духовым прыгатаваньнем да сустрэчы вялікага сьвята — Нараджэньня Хрыста-Збавіцеля й посная ежа, што прыгатаўлялася пераважна з расьлінных запасаў і вырабаў яго гаспадаркі, была галоўным фактарам у гэтым. З другога боку недастатковыя запасы скаромніны, што неабходныя былі ў часе цяжкой летняй працы, змушалі яго пасьціць усе пасты. У Піліпаўку карміўся япрук, які перад самымі сьвятамі забіваўся, і скаромніна зь беларускаю каўбасою была галоўнаю адзнакаю Калядаў. Смак скаромніны пасьля шчырага посту быў надзвычайны. Капрызных амэрыканскіх заўвагаў адносна «фэтнасьці» тады зусім ня было. Трэба прызнаць, што беларуская каўбаса запраўды вельмі смачная й таму яна не забываецца й тут у З.Ш.А. на багатым сьвяточным стале й заўсёды прыпамінае Каляды на бацькаўшчыне.

Асабліва беларуская моладзь, што разам із старэйшымі пасьціла, чакала надыходу Калядаў, каб нарэшце пазбавіцца поснае ежы разам з прышчаным бобам або гарохам, які жаваўся дома й паза домам, гэтак, як жуйкавая амэрыканская гума, ды поўнасьцю выкарыстаць кароткія Піліпаўскія дні для гульні на фоне прыроды ў часе сьвяточнага перапынку ў школах. Вялікія курганы сьнегу, што часта дасягалі да стрэхаў будынкаў, і ледзяныя прасторы вазёраў былі натуральным пляцдармам іх гульні. Санкаваньні ды сьлізганьні па лёдзе на самадзельным дзеравяным каньку, што быў падкаваны дротам ды прывязаны матузкамі да аднае нагі (другая адпіхалася ад лёду й гуляла ў паветры) вымагалі значнае колькасьці энэргіі, спрыту й цярплівасьці. Ахвота перамагала ўсе цяжкасьці ды недаяданьні. Ніякі прымус ня мог зраўняцца зь ёю. Толькі надыход вечару ды катэгарычны кліч бацькоў перапыняў гульню каб на другі дзень зноў кінуцца ў вабыймо цудоўнае беларускае зімы.

Старэйшыя прадстаўнікі сялянства, асабліва жанчыны, былі прывязаныя ў Піліпаўку да хатняе працы. Толькі мужчыны адлучаліся часамі з дому, каб навазіць санною дарогаю дроў ды будаўлянага матар'ялу. Пры штодзённай працы не заўважана надыходзілі Каляды, якія сьвяткаваліся ў працягу 2-х тыдняў. Праца ў гэтым часе, за вынняткам неабходнай па дагляду жывёлы, прыпынялася. Рэлігійныя мамэнты ў часе Калядаў перапляталіся з бытавымі традыцыямі нашага народу. У вечары з 24-га на 25-е сьнежня кажная сямья самастойна ладзіла посную куцьцю. Гаспадар прыносіў з гумна трохі сена, як сымбаль ясьляў у Нараджаньні Хрыста, клаў яго на стол, а гаспадыня пакрывала яго чыстым абрусом і ставіла загадзя прыгатаваную ежу. Дзеці запальвалі васковыя сьвечкі на ялінцы. Уся сямья ў паважным сьвяточным настроі малілася, а пасьля сядала за стол і спажывала ежу з рознымі поснымі смакалыкамі. Пачостка канчалася куцьцёю, што стаяла ў куце за сталом. Раніцаю 25 сьнежаня гаспадар даглядаў жывёлу і даваў ёй тое сена, што было на стале. Пасьля службы ў царкве быў сьвяточны абед ужо із скаромінай. Перад Новым Годам адбывалася багатая скаромная куцьця, пасьля якое моладзь варажыла каб даведацца пра сваё будучае жыцьцё. Гаданьні практыкаваліся й у вечары перад Вадохрышчам. У працягу Калядаў моладзь наведвала хаты ізь зьвяздою і бэтлеем, сьпявала Калядкі ды жадала гаспадаром хаты здароўя, шчасьця, ураду на полі і прыплоду ў гаспадарцы. Гаспадар дзякаваў і даваў калядоўшчыкам каўбасу або штось іншае. Традыцыйны абход беларускіх калядоўшчыкаў ізь зьвяздою адбываецца цяпер у ЗША. Вадохрышчам канчаліся сьвяткаваньні вялікага сьвята — ідэі дабра, любові й надзеі паняволеных народаў, а ў тым ліку й Беларусаў, ад адзінае адвечнае маскоўскае тыраніі, што грасавала й грасуе ў культурнай Эўропе.

**А. Негневіцкі**

(Запраўднае прозьвішча аўтара гэтага артыкулу — др. Аляксандар Орса, які ў мінулым месяцы памёр у Брукліне (ЗША). Артыкул быў напісаны для каляднага нумару мінулага году, але з прычыны познага атрыманьня быў адложаны да сёлетняга году).

**Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША шчыра вітае Суродзічаў — Беларусаў у вольным сьвеце з нагоды Калядных Сьвятаў і Новага 1960 Году, зычачы ім гарту й моцы дзеля пeратрываньня жыцьцёвых нягодаў ды перамогаў на цяжкім шляху нашага нясупыннага змаганьня за волю й шчасьце Бацькаўшчыны-Беларусі.**

**Нью-Ёрк, Сьнежань 1959 г.**

**Галоўная Управа БАЗА**

**Яго Высокапрэасьвяшчэнству**

**Прааськяшчэньнейшаму Архіяпіскапу**

**СЯРГЕЮ,**

**Галаве Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы,
Пэрт, Аўстралія**

**Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША перасылае ад імя сваіх сяброў — Беларусаў Амэрыкі, Вам, Высокапраасьвяшчэньнейшы Ўладыка й усяму Япіскапату Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы на Чужыне найшчырэйшыя прывітаньні з нагоды 10-х Угодкаў Аднаўленьня Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы 19-га сьнежня 1949 году.**

**Няхай-жа дорыць Вас Усявышні на працягу доўгіх год здароўем і ласкаю мудрасьці ў кіраваньні нашаю любаю БАПЦарквою.**

**За Галоўную Управу
Беларуска-Амэрыканскага
Задзіночаньня**

**Н. Кушаль** **К. Мярляк**
**Сакратар** **Старшыня**

**Нью-Ёрк, 15. 12. 1959.**

# 10 - годзьдзе аднаўленьня БАПЦарквы

Перад дзесяцьма гадамі адбыўся апошні акт афармленьня аўтакефаліі Беларускай Праваслаўнай Царквы. Акт першага афармленьня адбыўся ў даўнай мінуласьці, калі народ наш меў гаспадарстваваную незалежнасьць, сьпярша ў паасобных княствах, а пазьней, задзіночаны ў Вялікім Княстве Літоўскім. На Саборы ў Навагрaдку ў 1291 годзе была ўцьверджаная першая Мітраполія, якая мела беспасярэднія дачыненьні з Канстантынопалем. Гэта з тых часоў нашая Царква засьвяцілася гэткімі слаўнымі іменамі як Сьв. Еўфрасіньня Полацкая, Сьв. Кірыла Тураўскі, Аўраам Смаленскі, Клімант Смаляціч ды шмат іншых. Іхная дзейнасьць і іхныя творы паказваюць датаго-ж, што народ наш у цывілізацыйным поступе йшоў поруч зь іншымі народамі Эўропы.

Аднак пазьнейшая страта незалежнага бытаваньня народу спрычынілася й да ўтраты самастойнае Аўтакефальнае Царквы. Калянізацыйны наступ Польшчы, якая карысталася ўспамогаю Каталіцкае Царквы, і маскоўская імпэрыялістычная экспансія, якая таксама мела на сваіх паслугах сваю праваслаўную царкоўную арганізацыю, разгарнулі сярод нашага народу зацятую рэлігійную барацьбу, якая цягнулася вякамі. У выніку гэтае барацьбы ў нашым народзе пашырылася гэткае абсурднае разуменьне рэлігійнае прыналежнасьці, як «польская вера»» й «руская вера», якое дзе-колечы захавалася й да нашага часу. Гэты стан рэчы, бязумоўна, цяжка адбіўся ў рэлігійным жыцьці беларускага народу наагул.

Упоруч з нацыянальным адраджэньнем нашага народу йшлі й спробы адраджэньня свае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Гэтыя спробы паасобных герархаў адбываліся ўсьцяж, але заўсёды спатыкаліся з брутальнаю сілаю нашых палітычных ворагаў. Ужо ў нашыя часы спроба аднаўленьня БАПЦ была зробленая Архіяпіскапам Мэльхісэдэкам у 1922 годзе. Але гэтая спроба скончылася трагічнаю загубаю Архіяпіскапа Мэльхісэдэка ў бальшавіцкіх катавальнях ГПУ. У 1942 годзе ў Менску на Праваслаўным Саборы быў дакананы акт афармленьня БАПЦарквы. Аднак і гэты акт быў нешчасьлівы. Вышэйшыя герархі БАПЦарквы, узгадаваныя ў духу маскоўскага патрыятызму, апынуўшыся на эміграцыі, зракліся свайго становішча й перайшлі ў Расейскую Зарубежную Царкву, не зважаючы на мольбы беларускіх праваслаўных вернікаў. Гэта сталася ў 1946 годзе. БАПЦарква засталася асірацелаю.

У 1948 годзе асірацелую БАПЦаркву выказаў жаданьне ачоліць герарх Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы Яго Высокапрэасьвяшчэнства Япіскап Сяргей, які жыў тады ў Нямеччыне ў знаным гістарычным месьце Канстанцы. У Беларусаў-эмігрантаў узьняліся надзеі на фармальнае аднаўленьне аўтакефаліі свае Царквы, а дзеля гэтага аднаўленьня неабходна ачоленьне Царквы двума Япіскапамі. Вось-жа другім ачольваючым Япіскапам БАПЦарквы суджана было стацца беларускаму грамадзяніну, цяперашняму Архіяпіскапу Васілю, які выказаў жаданьне прысьвяціцца Царкве, прыняў манаскі стан і пачаў рыхтавацца да пасьвячаньня.

У 1949 годзе, у дзень Сьв. Мікалая, у Баварскім месьце Розэнгайме, у бежанскай лягернай Царкве, якую збудавалі вернікі Беларусы, адбылася Хіратонія Япіскапа Васіля. Хіратонія была праведзеная трыма Япіскапамі Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

У гэты радасны сьвяточны дзень вернікі Беларусы з сардэчнай удзячнасьцяй віталі й праводзілі дарагіх Айцоў Царквы, якія не далі гібець у сіроцтве нашай Царкве. Гэтая сардэчная ўдзячнасьць, асабліва-ж ЯВПр. Архіяпіскапу Сяргею, Сьв. Памяці ЯВПр. Япіскапу Платону й Сьв. Памяці Блажэннаму Мітрапаліту Палікарпу, застаецца назаўсёды ў сэрцах беларускіх праваслаўных вернікаў. Зь нязменшай радасьцяй і ўдзячнасьцяй спаткалі вернікі й свайго суродзіча Ўладыку Васіля, зь якім за гэтыя дзесяць год у Амэрыцы мелі магчымасьць часта супольна маліцца Богу. У гэты юбілейны час успамінаюцца й дзьве асабістасьці айцоў у сане іерэйскім — Хвёдара Данілюка й Сьцяпана Войтанкі, якія шмат прыслужыліся да аднаўленьня БАПЦарквы.

Царкоўная дзейнасьць Сьвятой БАП Царквы разьвіваецца і ўзрастае на эміграцыі. На Бацькаўшчыне гэтая дзейнасьць ня можа праводзіцца із зразумелых прычынаў: варожая пастава бязбожнае тыранічнае бальшавіцкае ўлады да Царквы, а тымбалей Беларускае, робіць гэтую дзейнасьць немагчымай, яна адбіваецца пакуль што толькі водгукам у сэрцах праваслаўных вернікаў — нашых суродзічаў на Бацькаўшчыне.

За дзесяцёхгадовы пэрыяд на эміграцыі заснаваныя парахвіі Сьв. БАПЦарквы: у ЗША — у Нью Ёрку, Нью Брансвіку й Кліўленьдзе; у Канадзе — у Таронта; у Ангельшчыне у Брадфордзе; у Аўстраліі — у Пэрце, Адэляідзе, Мэльбурне й Сыднеі.

Трэба адцеміць той прыемны факт, што ўсюды, дзе згуртавалася параўнальна большая колькасьць Беларусаў — новых эмігрантаў, робяцца стараньні дзеля ўладжаньня арганізаванага царкоўнага жыцьця. Дзеюць тут супольна два чыньнікі: духовыя патрэбы вернікаў хрысьціян й нацыянальная супольнасьць. Злучэньне праваслаўных Беларусаў, якія становяць пераважаючую бальшыню беларускага народу, у адзінай Сьв. БАПЦаркве пад душпастырствам духова й кроўна зьвязаных з народам сьвятароў — гэта найлепшы шлях і да захаваньня нацыянальнага адзінства й нацыянальнага развою.

Царкоўныя супольствы БАПЦарквы павінны быць гатовыя й радыя прыняць у свае серадовішчы кажнага Беларуса, ня робячы ціску на ягонае рэлігійнае пераконаньне. І гэта неабходна з узгляду на існаваньне сярод Беларусаў іншых рэлігійных хрысьціянскіх вызнаньняў. Цьвёрдая ў сваёй веры й спагадлівая да ўсіх братоў Беларусаў БАПЦарква будзе выконваць ролю й нацыянальнага злучыва Беларускага Народу. І гэта пэўне-ж разумеюць і адчуваюць нашыя суродзічы, стараючыся злучыцца ў сваёй БАПЦаркве, бо гэтым яны закладаюць моцны й сталы фундамант да рэлігійнага й нацыянальнага жыцьця.

Зразумела, што будова Царквы на эміграцыі спатыкае цяжкасьці. А найбольшая цяжкасьць — гэта расьцярушанасьць беларускае эміграцыі па цэлым сьвеце.

Ня спрыяе царкоўнаму жыцьцю й той факт, што Галава БАПЦ Яго Высокапрасьвяшчэнства Архіяпіскап Сяргей знаходзіцца ў Аўстраліі, а не ў Амэрыцы, у месцы большага згуртаваньня Беларусаў. Перад БАПЦарквою на чарзе стаіць шмат заданьняў, а перадусім узгадаваньне сьвяшчэнаслужыцеляў, без чаго нармальнае й пасьпяховае разьвіцьцё царкоўнага жыцьця немагчымае. Добрыя пастыры, моцныя й верныя ў службе Богу й свайму народу — гэта наймацнейшы фундамант нашае Царквы, якая павінна быць устойліваю й непахіснаю перад рознымі нягодамі.

На чарзе таксама ўзмацненьне нашае Герархіі: Хіратонія новых Япіскапаў, зарганізаваньне Епархіі, ці Епархіяў.

Перад усімі намі, і перад вернікамі, шмат заданьняў і шмат працы. Мусім быць рупныя, дбалыя, працавітыя, каб ахаваць сваю Сьвятыню — дар Божы і

**ПЕРШАЯ СЭСІЯ СЬВЯШЧЭННАГА САБОРУ ЯПІСКАПАЎ СЬВ. БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ**

**На здымку: Архіяпіскап СЯРГЕЙ (пасяр эдзіне), Япіскап ПЛАТОН (справа ад яго) і Япіскап ВАСІЛЬ (зьлева ад яго).**

# Ці ня час закрануць пытаньне ?

У час пабыту ў гасьцёх у кліўлендзкай беларускай моладзі мне пашчасьціла адстаяць сьв. Літургію ў часовым будынку кліўлендзкай праваслаўнай царквы. Я ня буду тут гаварыць аб тым, што ў тым-жа двары ўжо пад дах падыйшло будаваньне новае сьвятыні, ні ўспамінаць аб усіх тых добрых, іншы раз гераічных рэчах, што павязаныя з гэтым будаваньнем у такіх складаных абставінах на чужыне, аб гэтым і пісалася ды, пэўна-ж яшчэ й будзе пісацца. Мне хочацца расказаць тут аб сваіх пачуцьцях, настроях і думках, што былі ў мяне падчас ходу Багаслужбы.

Часовае царкоўнае памешканьне малое, тут ледзь-ледзь праціскаюцца вернікі беларускай калёніі, але гэта нічуць не парашкаджае таму высокаму малітоўнаму духу, які тут запраўды пануе. Надзвычай прыгожа служыць мітрафорны праярэй а. Мікалай (Макарэвіч). Ягоныя малітвы напоўненыя вялікім пачуцьцём і праніклівасьцяй. Яны інтанацыйна арганічна зьвязаны зь пяяньнем царкоўнага хору, іншы раз узначальваюць, іншы раз дапаўняюць ці суправаджаюць апошні. Вельмі прыгожая манера сьвятара часамі чытаць і вымаўляць царкоўны тэкст на фоне харавога пяяньня, што яшчэ больш злучае паміж сабою ўсе элемэнты Божае Службы. Пры гэтай канцэртнасьці (у самым высокім разуменьні гэтага слова) ня толькі не зьмяншаецца духоўнасьць, пяшчотнасьць і малітоўнасьць настрою, а, наадварот, яна пабольшваецца, і ход Багаслужбы ператвараецца ў цудоўнае багацьце адценьняў. Парадаваў мяне айцец Мікалай і сваім красамоўным словам, прысьвечаным у той дзень беларускаму мастацтву.

З вышэй сказанага можна бачыць і добрую ролю царкоўнага хору, аднак на гэтым мне хочацца крыху тут спыніцца. Калі я колькі год таму ўпяршыню паслухаў пяяньне ў царкве, дык гэта было толькі малаладнае выкананьне, што нагадвала вясковых дзякоў. Цяпер-жа вы тут прысутнічаеце пры зладжаным, стройным, музычна-выразным, ужо ўмелым пяяньні запраўднага хору, які ведае ня толькі абіходнае, але й даволі складанае партэснае выкананьне, свае партыі й іх агульнае спалучэньне ў вадзіным мастацкім царкоўным творы. Хор сьпявае мякка, без націску, як гэтага й патрабуецца, каб дасягнуць больш ціхага (піяна) малітоўнага гучэньня.

Вялікая доля ўсіх гэтых дасягненьняў адносіцца да самога складу хору, да ягонага няспыннага руху наперад у аваладаньні царкоўна-пяяльным мастацтвам. Значная сіла яго ў тым, што хор складаецца вылучна зь беларускае **моладзі.** Думаю, што апошняя рыса зьяўляецца рэдкасьцяй у нашым эміграцыйным (ды й ня толькі эміграцыйным) жыцьці, і сама сабою заслугоўвае на пахвалу ды пастаўленьне ўсім у прыклад.

Але, зразумела, галоўным «віноўнікам» тае мэтамарфозы, якая адбылася з кліўлендзкім царкоўным хорам — гэта заслужаны харавы дзеяч сп. Кіслы й ягоныя здольнасьці, уменьне, дасьветчаньне, адказнасьць і любоў да свае справы. Вельмі цешыць і тое, што сп. Кіслы ў царкоўны рэпэртуар уключае й чыста беларускія творы, як гэта было на Багаслужбе, на якой я прысутнічаў, і дзе выконваліся «Блажэнны» («Во царствіі Твоем») і запрычасны «Божа ўсядобры» (Равенскага).

Апошняя акалічнасьць якраз і закранула ў мяне думку: ці ня час паставіць **пытаньне аб вартасьці і, навет, неабходнасьці паступовага пераводу нашага царкоўнага рэпэртуару на нацыянальна-беларускія рэйкі,** хаця-б у васноўным і галоўным. Ці ня хопіць ужо нам сядзець на Архангельскіх, Турчанінавых і Сарты?! Ці не пара заняцца станаўленьнем і распаўсюджваньнем беларускіх царкоўных твораў? Праўда, іх у нас яшчэ вельмі й вельмі мала, аднак усёткі штосьці ёсьць ды й можа яшчэ больш. Мы павінны ведаць і разумець, што такое важнае пытаньне магчыма ўзьняць і практычна павесьці толькі тут, у вольных умовах, бо там, на Бацькаўшчыне, гэта немагчыма.

Некаторыя нашыя кіраўнікі царкоўных хораў дагэтуль яшчэ баяцца зрабіць пералом, не вядуць працы над адшуканьнем беларускага рэпэртуару.

Мне могуць слушна закінуць тое, чаму я сам ня стаў яшчэ моцна на гэты шлях, але, на маю думку, якраз мне першаму гэта й ня выпадае, каб ня было тут папрокаў у сваекарысьці. Аднак так ці гэтак, але парушыць гэтую справу я лічу сваім абавязкам ды таксама лічу абавязкам зьвярнуцца да кіраўнікоў нашых царкоўных хораў, каб яны адгукнуліся на гэтую думку. У першую чаргу, якраз, хочацца зьвярнуцца да сп. Кіслага, які ўжо прарабіў частку працы й якога я ведаю як беларускага патрыёту. Ясна, што ў гэтым выпадку ўсім нам патрэбнае блаславеньне царкоўнага кіраўніцтва, але думаю, што тут апрача дабразычаньня мы іншага ня сустрэнем. Практычнае зьдзейсьненьне, аднак, за намі.

Трэба падумаць і абмеркаваць паважна і дзейна гэтую важную неабходную справу — справу **беларускага царкоўнага пяяньня.**

**Мікола Куліковіч**

на хвалу Богу й сабе на валікую пацеху й карысьць.

Дбалае айцоўскае душпастырства ды ахова Царквы, як найдаражэйшага скарбу вернікамі ўцьвердзіць Яе непахіснасьць перад рознымі небясьпекамі, узьдыме Яе павагу, прынясе й пашану нам ад іншых народаў ды прывядзе нашую Сьвятую Царкву да заняцьця пачэснага месца ў Вялікай Супольнай Праваслаўнай Царкве.

Дзеля асягненьня гэтага мы з шчырасьцяй, успамінаючы найлепшае пажаданьне, якім віталі нашыя бацькі й дзяды людзей пры карыснай працы, будзем паўтараць — Памажы Божа!

**М. Міцкевіч**

**МІКОЛА ВОЛАЦІЧ**

2)

# Думкі аб літаратурнай мове

**Абмылкі ў літаратурнай мове.**

Што да «абмылак» у старой «рускай» пісьменнасьці ёсьць так многа довадаў існаваньня ў X—XII ст. ст. тых самых асаблівасьцяў народнай мовы, што й цяпер, так што німашака магчымасьці ў гэтым артыкуле на іх спаслацца. Падамо толькі некалькі для прыкладу.

Вось напіс на крыжы Эўфрасіньні Полацкай: (1161 г.)

«. . .покладаеть Офросинья чьстьныи крстъ. въманастыри своемъ. въ црькви стго спаса. чьстное древо. бесценьно есть. а кованья его. злото и серебро и каменье. и жьнчюгъ въ р. гривнъ . . . да не изнесеть ся из манастыря никогда же . . .»

У гэтым надпісе бачым поўную перавагу ўсіх элемэнтаў беларускай народнай мовы над царкоўна-славяншчынай: **аканьне** — манастыр; **мяккія** канчаткі дзеясловаў трэйцяй асобы: покладаеть, есть, изнесеть; поўнагалосьсе: чьстьныи, серебро; **падаўжэньне** зычных: Офросинья, бесценьно, кованья, каменье; **цьвёрдае вымаўленьне р:** манастыри (зам. манастыре).

У Жыцьці Хвядося (XII в.) знаходзім «павечеряя», «раздор», «розвальни», «славянинъ», «славяне»; у Супрасьльскім эванэльлі (XI в.) — вьсекъ, ныня (зам. вьсякъ, ныне); у Дабрылаваму эв. (1164) — украінізмы: просыти съветьныкъ; «яблыко» у «Жыцьці Савы» (XIII в.) «иде», «може», «приде» у Яўсеявым эв. (1283), там-жа: «дамо», «створимо»; у Жыцьці сьв. Хвядося: измолода, сорочицю, городоу, володимирьскоую оболость і г. д. Прыкладаў на поўнагалосьсе поўна ўва ўсіх старых крыніцах. Вось зь беларускіх старых дакумантаў: Городня, головщина, волока, колода, сторона, толока (Русск. Ист. Стар.)

Так званая Панонская лягенда, або апісаньне жыцьця Канстантына і Мятодага перадае цікавую вестку, што Канстантын (Кірыла) у часе свайго падарожжа да Хазараў (860) знайшоў у Корсуні на Крыме пераклад эванэльлі на рускую мову, а таксама меў бяседу з «русінам», які ўмеў чытаць па-руску. Нажаль, да нас не дайшлі тэксты гэтай «рускай» мовы, так што немагчыма штоколечы сказаць аб ёй. Трэба аднак сьцьвердзіць, што не старая «руская» пісьменная мова задала тон літаратурнай мове XI і наступных стагодзьдзяў, але царкоўна-славянская з баўгарскімі асаблівасьцямі.

**Руская пісьменнасьць і «славяншчына».**

Хрысьціянства на нашых землях апрача новай веры прыносіла хоць зразумелую, але чужую мову, якая мела адыграць ролю лацінскай мовы Заходняй Царквы й грэцкай ува Ўсходняй Царкве. Адыграла яна аднак большую ролю, як літургічныя мовы Захаду й Усходу. Царкоўна-славяншчына дзеля сваёй блізасьці да жывых народных гутарак хутка ператварылася ў літаратурныя мовы паасобных славянскіх народаў. Ператварэньне гэтае наступіла такім чынам, што ў самастойных творах штораз больш і больш уводзілася асаблівасьцяў жывой народнай мовы пры ўтрыманьні царкоўна-славянскага правапісу й некаторых зваротаў, формаў і канчаткаў. Так паўстала на усх. слав. землях «руская» літаратурная мова XI—XIV в.в., якой карысталіся нашыя продкі, Украінцы, ноўгарадзкія Славене й Маскоўшчына. Не абазначае гэта зусім, што гэткай мовай гаварыла насельніцтва названых земляў. Яно гаварыла сваімі гаворкамі, а «рускай» літаратурнай мовай гаварылі толькі асьвечаныя людзі. У параўнаньні да царкоўна-славяншчыны X—XI ст. «руская» літаратурная мова была ўжо вялікім поступам дзеля ўспрыняцьця народных элемэнтаў. Аб розьніцы між царкоўна-славяншчынай пачаткаў «рускай» пісьменнасьці ды пазьнейшым пэрыядам можам мець уяўленьне, параўняўшы ўрыўкі з тэкстаў. Перш прачытаем лягенду аб паходжаньні славянскіх плямёнаў з старых дошчачак, знойдзеных каля Курску й нядаўна часткова апублікованых расейскімі эмігрантамі:

«Трие бо мужи бяста трие вѣсенце оутрие, ополуднѣ а вшернѣ . . . Утворисе роди тоіе о седмѣ рѣцѣх идѣже обитващехом заморья о краи зелень. А камо скоти водяи древнноіи сходу до карпенства горе . . .
То бяща она лятоі пред тисенщ трие стоі за Иерманрѣху. О тѣ щасе бя пря влика о брезѣх море годьстѣ а тамо праоце накидьша кургала о се камениа бяла о подкоя погребьшя боляри а вуце сва якове о сѣцѣ падьшя . . .

А вось тэкст аб славянскіх плямёнах у ПОВЕСТИ ВРЕМЕННЫХ ЛЕТ (XII в.):

. . . По мнозехъ же времянѣхъ сѣли суть словѣни по Дунаеви, гдѣ ныне Угорьска земля и Болгарьска. От тѣхъ словѣнъ разидошася по землѣ и прозвашася имены своими, гдѣ сѣдше на которомъ мѣстѣ . . .
. . . Тако же и те словѣне пришедше и сѣдоша по Днѣпру и нарекошася поляне, а друзии древляне, зане сѣдоша в лѣсѣх; а друзии сѣдоша межю Припетью и Двиною и нарекошася полочане . . .

Із грамать Полацкага япіскапа Якава Рыжанам каля 1300 г.

. . .Поклонъ и благословлѣнье от Якова епископа полотьского. Бровсови намѣстьу пискуплю и дѣтемъ моимъ растманомъ былъ есмь не дома, во отьца своего митрополита, а нынѣ есмь на своемь мѣстѣ оу святоѣ софьѣ, а ныня есмь оувѣдалъ любовь ваша правая съ сномь моимь с Витенем . . .

Із прыраўнаньня дадзеных урыўкаў розных тэкстаў можна без глыбейшых досьледаў прадставіць сабе сутнасьць розьніцы між пачаткавай царкоўнаславяншчынай а так званай «рускай» літаратурнай мовай з прымешкай народных гаворак. Царкоўна-славяншчына пасьля некаторых рэформаў (у Баўгарыі й на Русі) сталася літургічнай мовай Царквы, літаратурная «руская» мова — сьвецкай пісьменнасьці і дзяржаўных актаў. У меру таго, як яна аддалялася ад Царквы й царкоўнікаў, тым больш набліжалася да жывой народнай мовы.

# Літаратурны Дадатак

## Артур Вольскі

Малады й многа абяцаючы беларускі падсавецкі паэта Артур Вольскі (нарадзіўся 23 верасьня 1924 году) зьяўляецца сынам шыракаведамага беларускага пісьменьніка Віталя Вольскага. Далей сярэдняе школы й віцебскага мастацкага вучылішча пісьменьнік не пайшоў, бо з выбухам другое сьветавае вайны быў пакліканы ў армію. Паэтычную дзейнасьць распачаў у 1945 годзе, а ўжо сяньня мае за сабой паважныя літаратурныя дасягненьні.

Галоўным жанрам пісьменьніка зьяўляюцца вершы, апавяданьні й драматычныя творы для дзяцей, і ў гэтай галіне ёсьць ён годным прадаўжальнікам таго самага жанру старэйшага беларускага дзіцячага пісьменьніка Янкі Маўра. У 1955 годзе выйшла кніга вершаў Вольскага для дзяцей «Маленькім сябром», у 1957 годзе сумесна з драматургам П. Макалём напісаў дзіцячую п'есу «За лясамі дрымучымі», якая была пастаўленая Беларускім дзяржаўным тэатрам юнага гледача ў Менску, а ў 1958 годзе выдаў зборнік вершаў для дзяцей «Водблікі далёкіх маякоў» і кнігу вершаў таксама для дзяцей «Дзедаў госьць».

У зьмешчанай ніжэй паэмцы «Паланянка» з рэдка спатыканай у савецкіх умовах адвагай паэта расказвае аб слаўнай мінуўшчыне беларускага народу, які сваей мужнасьцяй абараняў ня толькі сябе, але й вольныя народы эўрапэйскага Захаду перад татарскай навалай, выконваючы гэтым пачэсную гістарычную місію. Прадстаўляючы гістарычную мінуўшчыню беларускага народу ў ейным праўдзівым несхвальшаваным сьвятле, Вольскі запярэчыў афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі й пайшоў за голасам собскага нацыянальнага сумленьня.



Артур Вольскі

## ПАЛАНЯНКА

Адным узмахам вузкае далоні
спыніў Кайдан імклівую арду,
і хутка ўжо — стрывожаныя коні
да дна з рачулкі выжлукцяць ваду.

А хан Кайдан, аблюбаваўшы ўзгорак,
глядзіць,
як іскры безьлічных кастроў
губляюцца, сатлеўшы паміж зорак,
над вострымі вяршынямі шатроў.

Спагадліва зыходзіцца сузор'е —
усё ён возьме шабляй і агнём.
Ляжыць ля ног Кайдана Крутагор'е,
якое мы Кайданавам завём.

Падпаленай баранінай і кропам
нясе ад засынаючай арды.
І чуе за пагоркамі Эўропа
і коней храп, і востры пах бяды.

А хану зноў ня дасьць заснуць да ранку
нязбыты боль зарубцаваных ран.
І загадаў прывесьці паланянку
у свой шацёр
няўрымсьлівы Кайдан.

І вось яе, падобную да птушкі,
што ўжо ня можа вырвацца зь сіла,
вядуць да хана ўслужлівыя служкі,
каб мог на боль забыцца да сьвятла.

Нямала хан пабачыў паланянак,
аддаючы жывое ўсё агню.
Але такую навет між славянак
сягоньня напаткаў упершыню.

Яе вачэй не затуманіў сполах,
калі ён навет рукі распасьцёр,
і расьпіхнуў шырока цяжкі полаг,
і моўчкі прапусьціў яе ў шацёр.

Красуняй-паланянкай паланёны,
ён выгнаў навет сьпешнага ганца,
прысланага з далёкага загону,
дагаварыць ня даўшы да канца.

Кумысу адглынуць яе прымусіў,
а потым кіўнуў коратка:
— Сьпявай!..
І засьпявала,

як ляцелі гусі
ад родных рэк кудысьці за Дунай.
Ды забалелі крылы ў шэрай гускі,
адстала —
і ляціць зусім адна...

Стрыжэ за паланянкай
з вочніц вузкіх
нядобры жоўты позірк каршуна.

Спыніўся месяц над шатром Кайдана,
між воблакаў павольна плывучы.
А ў змрочнай пушчы, цемраю схаванай,
да бою зброю вострацъ Крывічы.

Хан схамянуўся:
— Што гэта скрыгоча?
Нібы па камні шоргаюць мячы...
Яна:
— Ды гэта конікі стрыкочуць
каля кастроў начлежных уначы...

— Вось нейкі гоман зьлева...
Вось — і справа...
І хан да шаблі цягнецца рукой.
— Ды гэта, хане, зашасьцелі травы
ад ранішніх напеваў за ракой...

— О, не! Ужо я тупат чую,
быццам
абходзіць нехта нашыя кастры...
— Ды гэта, хане, рэха навальніцы
данесьлі да шатра тваййго вятры...

Кастры ўжо згаслі. Астывае прысак.
А ранак неба чырваньню заліў,
нібыта іскру нехта з крэмня высек
і небакрай няўмысна падпаліў.

Пасьпешна сербануўшы сырадою,
як і заўсёды — ў гэты самы час,
пакліканы абуджанай ардою,
выходзіць хан на ранішні намаз.

Спыніўся, не пазнаўшы краявіду,
і грозным вокам спад брыва павёў.
Наўкол, як лес, глядзяць угору дзіды,
а шаблі — быццам сотні ручаёў.

Па ўсіх дарогах вырасьлі завалы,
нібы запруды ўпоперак вады.
І крумкачы ўжо кружаць
над прывалам
ахопленай трывогаю арды.

Адным узмахам вузкае далоні
хан загадаў прабіцца напрасткі.
Ды падаюць падкошаныя коні,
І зь сёдлаў вылятаюць седакі.

І сам тады
ў сядло Кайдан ускочыў:
О, ён ардзе
дарогу пракладзе!..
Ды раптам прад сабой убачыў вочы,
якіх ня сустракаў яшчэ нідзе.

Нібыта зь неба чыстага маланка
зьнянацку шуганула сярод дня...
Упоперак дарогі паланянка
стаіць, стрымаўшы ханскага каня.

Асьлеплены паглядам-бліскавіцай,
ён чуе толькі голас малады:
— Ударыла нарэшце навальніца,
і ўжо зь бяды
ня выведзеш арды!..

Зубамі скрыгануў Кайдан ад злосьці:
сьмяецца паланянка,
як на зьдзек.
І ён, гартанна выгукнуўшы штосьці,
наўскос паветра шабляю расьсек.

І зьнікла ўсё...
Ні тупату, ні звону...
Адно — цвыркочуць конікі ў траве.
А сонейка
у мроіве чырвоным
па небасьхіле стомлена плыве.

Ці жаўранак пяе? Ці берасьцянка?
Не памірай... Прыслухайся як след...
Ізноў адкрыла вочы паланянка,
каб раз яшчэ
зірнуць на белы сьвет.

І ўбачыла спад веек ледзь прыўзьнятых,
як раптам рукі ўскінуў грозны хан
і з вострай стралою між лапатак
пачаў зь сядла хіліцца на дзірван.

А жарабок, ураз адчуўшы волю,
рвануўся ўбок ад ханскага шатра
і павалок, нібыта мех, па полі
нядаўняга свайго гаспадара.

Падбег юнак.
Сьхіліўся да дзяўчыны.
І да грудзей прынікла галава.
На пругкім луку, выгнутым зь ляшчыны,
яшчэ пяе ледзь чутна цецива.

Ён устае.
Кідае позірк грозны
туды, дзе людзі, коні — бы ў віры.

— Спазьніўся я,
але яшчэ ня позна
адпомсьціць за жыцьцё маёй сястры!..

Напяўшы лук, ён зноў пайшоў у сечу.
Ня час цяпер для плачу і тугі.
Ужо — заўжды ціхманая — Няцеча
чырвонай хваляй б'ецца ў берагі...

Пад вечар бой суняўся нясьціханы.
А рэшткі недабітае арды,
забыўшыся на славу і на хана,
пабеглі з поля бою хто куды.

Застойны пах бараніны і кропу
яшчэ мяшаўся з водарам палян,
ды ўжо магла
спакойна спаць Эўропа,
як за шчытом,
за сьпінамі славян.

---

**Літоўская мова.**

Гэты працэс пачаў разьвівацца хуткімі тэмпамі, калі Літва пачала выходзіць у XIII веку на гістарычную шырэйшую арэну. У старую «славянскую» форму ўлівалася народная крывіцкая мова зь некаторымі асаблівасьцямі заходня-беларускімі, ствараўшы новую літаратурную мову — мову літоўскую, мову Вялікага Княства Літоўскага. Рост і росквіт гэтай мовы, як і калісьці «рускай» мовы, залежаў ад таго, наколькі яна будзе ў лучнасьці з жывой мовай народу ці да яе набліжацца. У першых вяках (14—16) працэс гэты можам наглядаць паводля тэкстаў:

Вось урывак з «Летапісца вялікіх князёў Літоўскіх» (1341—1400).

«Великого князя Гедимина Литовского было сынов семь: старейший Монивид, потом Наримонт, Олгирд — королев отец, потом Евнутий, потом Кестутий — отец великого князя Витовта, потом Корибут, седмый Любарт...»

Зь Лісту князя Гальшанскага 1396 г.

«Мы, князь Юрей Семенович, узрели есмо в грамоту деда нашего князя Ивана Олгимонтовича, нашли есмо, иж тые люди продкове наши и отцы наши придали светой Богородици печерской, люди на имя Иванищевичи, и с землею и с данью, у Глуской волости, давати им мера меду, а рубль грошей Литовских; а в Поречьи такожъ Андрея, и съ землею и съ данью, а давати ему полмеры меду, а полтина грошей Литовская...»

З граматы Казіміра 1486 г.

«Самъ Казиміръ Божою милостію король.
Намѣстнику Смоленскому, пану Миколаю Радивиловичу. Просилъ въ насъ окольничій Смоленскій, князь Олехно Глазиничъ села, на имя Бугина, што держали Шемяка зъ братомъ, а поведалъ намъ, ижъ то село служебное, а не тяглое, ани данное: а и ты намъ повѣдалъ, штожъ то село не данное, ани тяглое, и мы ему тое село Бугино дали и ты бы его въ тое село велѣлъ увезати...»

З полацкай граматы 1552 г.

«Вельможнымъ и врожонымъ и добродѣем нашимъ паномъ бурмистромъ и радцемъ ихъ милости словутного места Ризкого здоровье со всимъ добрымъ щастье и размноженье вашеи милости зычимъ. Ознаймуемъ вашей милости, яко суседомъ и приятелемъ нашимъ, ижъ тыхъ недавно прошлыхъ часовъ князь кунторъ Невгинскии до насъ бурмистровъ и радцевъ и до всего поспольства места государьского Полоцкого листъ свои писати рачилъ...»

Із Статуту Літоўскага 1588 г.:

«Напродъ мы господаръ обецуемъ и шлюбуемъ, подъ тоюжъ присегаю, которую учинили есмо всимъ обывателемъ всихъ земль панства нашого Великого Князства Литовского, иж всихъ княжат, пановъ, радъ духовныхъ и светскихъ, пановъ хоруговныхъ, шляхту, места и всихъ подданыхъ нашихъ, и всихъ становъ въ том панстве нашомъ Великомъ Князстве Литовскомъ... тыми одными правы и артыкулы въ том же статуте нижей писаными, отъ насъ даными судити и справовати маемъ...»

Із гэтых прыкладаў вынікае, што ў 16 ст. старая, традыцыйная, ужо зусім мёртвая царкоўна-славянская й руская форма выпаўніліся мовай блізкай да мовы жывой нашага народу. Такі поступ літаратурнай мовы Вялікага Княства Літоўскага зрабіў культурны пераварот у суседніх краінах так прыязных (Ноўгарад, Цьвер, Разань), як і Маскоўшчыне ды закарпацкай Малдавіі. Мала таго, мова літоўская (беларуская) сталася мовай дыпляматычных зносінаў ў усходняй Эўропе.

Вось адрывак з «Судебника 1550 г.» Маскоўскага князя Івана Васільевіча:

«Судъ царя и великого князя судити бояромъ, и окольничимъ, и дворецкимъ, и казначеемъ, и дьякомъ. А судомъ не дружити и не мстити никому, и посула въ суде не имати...

«А побыютца на поле в пожеге, или в душегубстве, или в розбое, или въ татбе, ино на убитом исцово доправити, да окольничему на убитом полтина да за доспехъ убитого три рубля, а дьяку четверть рубля...»

У 16 ст. была найбольшая экспансія дзяржаўнай мовы Вялікага Княства Літоўскага, рэхам якой быў вершык Пашкевіча на палёх Статуту Літоўскага:

«Польска квитнеть лацинаю,
Литва квитнеть русчиною,
Без той в Польше не пребудешь,
Без сей в Литве блазнемъ будзешъ».

Ці гэтая дзяржаўная мова літоўская была жывой мовай народу? Нажаль, не. Гэта была штучная, канцылярская мова, блізкая да народнай, аднак ня згодная зь ёю. Разьдзяляючым ровам быў традыцыйны правапіс і звароты, як быццам выражэньне «наўчонасьці», літаратурнасьці. Ёй паслугоўвалася невялікая група асьвечаных людзей. Але і ім ня лёгка яна давалася. Сьветчаць аб гэтым тысячы й тысячы абмылак у карысьць жывой крывіцкай мовы: «беруть дрыва зъ боровъ нашихъ на опалъ (1431, Акты Бер. Суду), крывавый, хрыбетъ, варыво, бывала, балотцу, аповедалъ, каторый (бел. Арх.); ганчаръ, карабельникъ, таваръ, Мазыръ, ледва, хавати і інш. (Русск. Ист. Библ.); дзедзичъ, досыць, ници, зацмиць, дзиды, жерьдзье (БА, ИЮМ, АМГС); дни, фольваркы, рубли, годы, невады, лесы, продкове, рыбалове і мноства іншых асаблівасьцяў у розных дакумантах, пераважна судовых, дзе запісаны сьветчаньні людзей з народу.

Некаторыя ўяўленьні аб народнай мове 16 ст. можна мець яшчэ з «Аль Кітабу» — гэта ёсьць мусульманскай пісьменнасьці на нашых землях, пісаных крывіцкай, дзяржаўнай мовай, але арабскімі літарамі. У гэтых тэкстах няма прысланяючага нашыя моўныя асаблівасьці традыцыйнага «славянскага» ці «рускага» правапісу.

І вось у часе нібы найбольшага росквіту беларускай дзяржаўнай мовы, калі ў падмацоўку яе прыйшоў друк і друкарства ад часоў Пранціша Скарыны — пачынаецца яе занепад на карысьць польскай мовы.

*Уладзімер Дубоўка*

# Чые рукі прыгажэйшыя?

**Індыйская казка**

1

На беразе ракі індыйскай Джамны
жылі даўней прыгожыя тры дамы.

У кажнай муж быў, так сказаць вяльможа,
таму пра хлеб іх клопат ня трывожыў.

Ня мелі клопату і пра уборы,
Ім не хапала толькі зь неба зораў.

Ніхто ня прымушаў іх турбавацца
наконт якой-бы ні было там працы.

Паспаўшы ўдосталь і на мяккім ложку,
яны і пачыналі дзень патрошку.

Спачатку падавалі ім сьняданьне,
пасьля былі з суседкамі спатканьні.

Яшчэ пасьля — ішлі яны на Джамну,
вось гэтыя прыгожыя тры дамы.

2

З усьмешкай на сваіх цудоўных тварах,
яны зь сябе свае здымалі сары.

Пасьля залазілі ў ваду па пояс,
а над вадой імклівіў звонкі голас.

Як пырскі, узьлятаў іх сьмех вясёлы,
каб хто увагі больш зьвярнуў на голых.

Яны сябе лічылі цудам сьвету,
і ўсе былі павінны ведаць гэта.

Гармідар той прыгожы і прыемны
даходзіў, навет, і да шахт падземных,

дзе людзі голыя крышылі камень
сваімі зьбітымі у кроў рукамі,

каб збудаваць цяжкой, падземнай працай
надземным дамам добрыя палацы...

3

На беразе ракі індыйскай Джамны
ня сумавалі гэтыя тры дамы.

Пра тое-сёе крыху размаўлялі,
а гутаркі і час плылі на хвалях.

Але дайшлі да рук сваіх, урэшце.
Тут згода кончылася, хоць і рэжце!

— Мае, — адна сказала, — цуды сьвету, —
і вы павінны ўсе згадзіцца з гэтым!

— Ніякай згоды, — кажа ёй другая, —
**мае** такія рукі, добра знаю!

Такое самае пачулі і ад трэцяй:
— Мае найпрыгажэйшыя на сьвеце!

Няма ў іх згоды, бо яны і судзьдзі.
Гарачых спрэчак і вада ня студзіць.

4

Якраз натое каля іх кульгае
бабуля нейкая — галодная, старая.

Спынілася і прывітала голых
у простых задушэўных словах.

Пасьля сказала:
— трэці дзень ня ем я.
Гарачыня спустошыла нам землі...

А, можа, хоць скарыначку дасьцё вы!..
Бабуліны іх не кранулі словы.

Галодных сыты зразумець ня можа,
пакуль самога лёс ня патрывожыць.

Да гэтых дам, над Джамнаю індыйскай,
наконт скарынкі не хадзі і блізка.

І ўсё-ж-ткі трэба скарыстаць старую!
Адна яе пытаньнем і частуе:

— Дапамажы нам скончыць нашы мукі:
ў якой з нас лепшыя красою рукі?

— Чакайце крыху, — кажа ім старая, —
Прыду, як толькі ежу адшукаю...
І пакульгала прэч ад іх зь кіёчкам
па чыста вымытым вадой пясочку...

5

Праз гоні двое, ля ракі таксама,
жанчына простая сядзела пад кустамі.

Усё жыцьцё яна працуе ў полі,
сваім гарбом сваю ствярае долю

Вятрамі біта і дажджамі мыта,
яна нічым ад сонца не закрыта.

Ад сонца яснага яна ўся чорна,
І лёсу горкаму яна пакорна.

Прыйшла, каб смагу ўтаймаваць вадою,
перадыхнуць хоць крыху над ракою.

6

Зь кійком старая да яе кульгае,
сардэчным словам і яе вітае.

— Даруй, дачушка, за маё пытаньне:
Ці засталася крошка ад сьняданьня?

Сказала у вадказ ёй маладзіца:
— Сядай, бабуля, ў засень на травіцы.

Няхай зьбіраюць крошкі ліхадзеі!
З табой сьняданьне папалам падзелім,

каб падужэла ты ў сваёй дарозе,
каб весялей было табе, нябозе...

Пасьнедалі тады яны абедзьве,
хоць сонца і стаяла на абедзе.

Старой была вялікая падмога.
Падзякавала. Стала зноў на ногі.

Пасьля ўзяла яе руку сваёю
і павяла ля Джамны над ракою.

7

Прышлі да дам. Яны былі ля рэчкі,
свае ніяк не паканчалі спрэчкі.

Сказала ім старая, гэтым дамам:
— Цяпер адказ на запытаньне дам вам.

На рукі гэтай маладзіцы гляньце:
яны і чорныя, яны аж з глянцам.

Яны паранены, яны пабіты,
яны салёным потам перамыты.

Яны мяне, якую лёс зьнясіліў,
запрацаваным хлебам накармілі.

Няма на сьвеце ім красою роўных,
а прыгажэй ад вашых — бязумоўна!

Бо хараство усё ідзе ад працы,
пабудавала праца і палацы.

А беленькія вашы, як лілеі,
дабра ня твораць і тварыць ня ўмелі!

8

Сказала так і адыйшла старая.
Пайшла ў свой бок і маладзіца тая.

На беразе ракі індыйскай Джамны,
пазналі ўсё-ж-ткі сорам тыя дамы.





Зіма на Беларусі





### Прычыны заняпаду дзяржаўнай мовы В.К.Л.

Што здарылася, што пачынаючы ад сярэдзіны 16 веку польская мова пачынае выціскаць у прыватных лістох і зносінах багатую і нібы стройную дзяржаўную мову? У чым-жа гэткая ненармальнасьць ды нібы супярэчнасьць? Зьвальваньне віны на рэфармацыю, на езуітаў, на каталіцтва, на Палякаў і г. д. — гэта шуканьне найпрасьцейшай разьвязкі дзіўнага зьявішча. Сталася нешта глыбейшае ў нутры самага народу.

Пакуль асьвета й удзел у публічным жыцьці былі справай толькі невялікай групы людзей, а народ у сваёй масе быў пасыўным удзельнікам гістарычных падзеяў — дзяржаўная мова Вялікага Княства Літоўскага, як мова зразумелая для народу й яму зусім блізкая, магла быць прыцягваючай сілай навет для нашых суседзяў. Нямецкая блякада Балтыцкага мора (крыжакі й лівонскія рыцары), а татарская — Чорнага мора спрыялі ўтрыманьню на працягу даўжэйшага часу гаспадарчага й культурнага застою В.К.Л., а разам з гэтым давалі магчымасьць утрымоўвацца штучнай дзяржаўнай і літаратурнай мове ды навет ёй набліжацца больш і больш да народнай эвалюцыйным шляхам. У 15 і на пачатку 16 ст. наступіла поўнае зламаньне нямецкіх рыцараў на Балтыцкім пабярэжжы, а разам з гэтым пачаўся выхад Беларусі на захад у гаспадарчых дачыненьнях. Вываз збожжа, лесу й лясных прадуктаў, скураў, мёду, воску, валоў, мяса ды прывоз з-за граніцы тавараў патрэбных насельніцтву спрычыніліся да разьвіцьця гарадоў, рамесьніцтва, земляробства, гандлю, да ўзбагачэньня мяшчанства, баярства ды паноў. На паверхню публічнага жыцьця пачала выходзіць шляхта й баярства, за імі мяшчане, каб здабыць сабе прывілеі, забясьпечваючых ім штораз лепшыя ўмовы жыцьця. Дзеці так шляхты-баярства, як і мяшчанства змаглі пайсьці на захад у вышэйшыя школы, унівэрсытэты нямецкія, італьянскія, чэскія і іншыя здабываць навуку, а здабыўшы яе, паднясілі ўзровень свайго асяродзьдзя на бацькаўшчыне. І вось тут пачалася трагэдыя нашай дзяржаўнай мовы. Выхаваньнікі заходніх школаў зналі добра замежныя мовы, але амаль зусім ня ведалі свае, дзяржаўнае. Тая фармальная, вонкавая разьбежнасьць жывой народнай мовы з мовай дзяржаўнай стварала запору, зьнеахвочаньне да яе, як да нечага штучнага, няжыцьцёвага. Рэфармацыя спрыяла разьвіцьцю гэтага працэсу. Рэфармацыя ў барацьбе з каталіцкай царквой і зь мёртвай лацінай вынесла на паверхню жыцьця жывыя мовы розных народаў, надаючы ім права на дзяржаўнае й літаратурнае значэньне. Так занялі свае месца нямецкая, францускам, ангельская, польская, навет жамойцкая мовы. Былі спробы й дзяржаўную беларускую мову ўключыць у гэтую вялікую культурную рэвалюцыю. У гэтым кірунку дзейнічылі Цяпінскі, Будны, успамаганыя Радзівіламі. Уключаліся езуіты й царкоўныя брацтвы, але не маглі спыніць жудаснага працэсу адыходу ад свае мовы. Сьцьвярджаў гэта вобразна Цяпінскі у прадмове да свайго «Эвангельля»:

(сучасны правапіс)

«Хто-б багабойны не зьдзяржаўся, хто не заплакаў-бы, гледзячы на такую кару Божую, бачачы ў такіх вялікіх княжат, такіх знатных паноў ,так многа нявінных дзяцей, мужаў з жонкамі ў такім зацным і тым больш у такім даўней дасьціпным, вучоным народзе рускім такое занядбаньне свайго слаўнага языка, проста пагарду, за каторую іх ясна мудрасьць у слове Божым, которая была ў ніх проста прыроджанай, адышла ад іх за кару Божую, а на яе месца цяпер прыйшла такая аплаканая няўмеласьць, што ўжо многія стыдаюцца й свайго пісьма асабліва ў слове Божым».

Вось гэтае няўменьне «свайго пісьма» ды яго штучнасьць і архаічнасьць, рознасьць ад заходняга пісьма (лацініцы) схілялі людзей да пераймання здабыткаў культурнага пераварота. Ніхто тады не дадумаўся адкінуць традыцыйнае «рускае пісьмо й літары» (хай сабе ўзаконены) і не пачаў пісаць лацініцай ці навет старымі літарамі, але так, як гаварылася, без старой, непатрэбнай формы ды мёртвай канцылярщчыны. Таму спробы адрадзіць дзяржаўную безь пераменаў мову а толькі заклікамі ці нараканьнямі не маглі даць пераломнага адраджэньня. Рэфармацыя разьвіла школьніцтва так пратэстанцкае, як і каталіцкае (часткова праваслаўнае), але школьніцтва пайшло па пахілай усяго гістарычнага працэсу. Пратэстанцкія школы навучалі папольску, каталіцкія паладціне, праваслаўныя пацаркоўнаславянскую й «рускую» (мовай далітоўскай пары).

Бачыў гэта ў некаторай меры няведамы аўтар Перасьцярогі, палямічнага твору пачатку 17 в.:

«То вельми много зашкодило панству Рускому (у сэнсе рэл.) же не могли школъ и наукъ посполитых разширяти, и тыхъ не фундавано, бо коли бы науку мели, тогды бы за неведомостию своею не пришли до таковые погибели. Читаючи кроники польскіе, знайдешъ о томъ достаточне, як поляци рускіе панства пообседали, попріятелевши зъ ними, и царскіе цурки свое за русиновъ давши (відаць, жанімства Ягайлы зь Ядвігай) черезь нихъ свое обычае оздобные и науку укоренили, такъ ижъ Русь посполитовавши ся зъ ними, позавидели ихъ обычаемъ, ихъ мове и наукамъ и не маючи своихъ наукъ, у науки римскіе свое дети давати почали, которые зъ науками и веры ихъ навыкли, и такъ помалу науками своеми все панство руское до веры римское привели...»

У гэтых разважаньнях Перасьцярогі, бязумоўна, многа праўды, але ніхто ня ў сілах быў адхіліць гэтага працэсу, паколькі ён вынікаў із старой «герагліўшчыны» пісьма, правапісу ды перажытага шаблёну.

Спачатку, ясна, ніхто не адважваўся выступіць супраць законнага парадку, што «пісар земскі рускімі літарамі й словы маець пісаці», але ўжо ад другой палавіны 16 веку пачынаецца прыватная перапіска між магнатамі, шляхтай і мяшчанамі папольску. Мова гэтая польская ў лістох бедная, прымітыўная, поўная беларускіх і лацінскіх словаў і зваротаў, але, відаць, лягчэйшая ў пісаньні, чымся свая, дзяржаўная. У 17 ст. працэс гэты рашшыраўся на публічныя акты, адначасова наглыбляўся заняпад літаратурнай дзяржаўнай мовы. Яна засьмечвалася палянізмамі й русыцызмамі (ад часу маскоўскага «патопу» 1654—57), аж у канцы 17 веку ўступіла свае афіцыйнае месца польскай мове.

# Каляды ў ЗША

З усіх гадавых сьвятаў хрысьціянскага сьвету ў сэнсе ўрачыстасьці й пышнасьці сьвяткаваньня першае месца на Захадзе, асабліва ў ЗША, займаюць Каляды.

У нас калісь на Бацькаўшчыне ня менш урачыста за Каляды сьвяткавалі й Вялікдзень. У ЗША вонкава Вялікдзень праходзіць амаль незаўважна, астаючыся выключна царкоўным сьвятам, ня зьвязаным гэтак багата, як Каляды, з народнай абычаёвасьцяй.

Найбольш цікавым, характэрным мамэнтам Калядных урачыстасьцяў у ЗША, ёсьць перадусім даволі доўгі перадкалядны пэрыяд. На Бацькаўшчыне ўсе калядныя абрады й цырымоніі, як ведама, пачыналіся ад Куцьці й цягнуліся да Вадохрышча.

Тут Куцьці ў нашым паняцьці няма, а прыгожы звычай каталікоў дзяліцца з усімі на Куцьцю аплаткам, ня толькі ў ЗША, а ўсюды на Захадзе ня йснуе.

Каляды ў ЗША гэта перадусім сьвята дзяцей, а ўсе ўрачыстасьці пачынаюцца задаўга да самой сьвяточнай даты, каторая ёсьць адно завяршэньнем. Можна сьмела сказаць, што Каляды ў ЗША пачынаюцца ад апошняга чацьвяра лістапада, у які штогод адзначаецца выключна амэрыканскае (Задзіночаных Штатаў Амэрыкі) сьвята, г. зв. «Thanksgiving Day» (Дзень Удзячнасьці, дзень, калі ўсе Амэрыканцы дзякуюць Усявышняму за ўсё, што яны маюць на гэтым сьвеце). Дзень гэты зьвязаны сваім паходжаньнем зь гісторыяй першых пасяленцаў у ЗША й характэрная ягоная абычаёвая асаблівасьць — гэта абавязкавы на абедзенным стале запечаны надзяваны індык, а да яго салодкая бульба й журавіны «Cranberry». Галоўная-ж асаблівасьць гэтага дня — сыгнал да пачатку Каляднага пэрыяду.

На «Тэнксгівінг Дэй» ува ўсіх большых гарадох краю, як Нью-Ёрк, Філядэльфія, Дэтройт, Чыкага і інш., ад 10-ай г. раніцы пачынаюецца адумысловыя парады — мастацкія фэстывалі прызначаныя паводля свайго зьместу выключна для дзяцей, хоць зь вялікай прыемнасьцяй прыглядаюцца ім не адно дзеці, а й дарослыя.

Найбольш славутай парадай — гэта парада ў «Мэйсі» ў Нью-Ёрку (ад імя ведамага з найбольшых унівэрсальных магазынаў, арганізатара парады).

У раёне гэтага магазыну вуліцы на «Тэнксгівінг Дэй» замяняюцца ў край цудоўных баек. На працягу колькіх гадзінаў ідуць, машыруюць, плывуць у паветры, едуць на фантастычных рыдванох, калясьніцах, скачуць і сьпяваюць пад гукі нязьлічоных аркестраў процьмы ўсялякіх дзівосаў: тут вялікія ў рост чалавека мышкі, зайцы, розныя зьвяры, цмокі, гэроі баек Андэрсэна ды арабскіх казак з «Тысячы аднэй ночы», найбольш папулярныя ды ўлюбленыя дзецьмі кіно й тэле-акторы ў маляўнічых строях, а каўбоі на конях.

Нічога дзіўнага, што ў гэтым часе ўсё малое насельніцтва, якое толькі можа самастойна ці ўчапіўшыся за бацькоў выпаўзьці з дому — на вуліцы, у раёне Мэйсі. Тыя-ж, хто з тэй ці іншай прычыны астаўся дома, ня могуць адарвацца ад тэлевізараў, што ўвесь час перадаюць прабег парадаў у Нью-Ёрку ды іншых местах. Парады Мэйсі ды й наагул усе парады «Дня ўдзячнасьці» — гэта неапісальная чароўная рознакалёрная фэерыя.

Звычайна парады «Мэйсі» канчаюцца ўездам у места на вялізарных срыбных санях запрэжаных аленямі «Санта Клоса» (Сьвятога Мікалая, Дзеда-Мароза) з каляднымі падарункамі.

Гэта й ёсьць пачатак каляднага пэрыяду. Ад гэтага часу дырэктар Галоўнае пошты ў Нью-Ёрку міжволі замяняецца ў «Дзеда-Мароза». Да яго тысячы дзяцей высылаюць лісты з просьбай прынесьці ім на Каляды забаўкі (да 10-га сьнежаня сёлета Галоўная пошта Нью-Ёрку атрымала 2 000 гэтакіх лістоў).

Лісты гэтыя ня выкідаюцца, яны знаходзяцца ў распараджэньні публікі ў спэцыяльным пакоі пошты, дзе шматлікія прыватныя асобы і ўстановы сьпісваюць адрысы дзяцей дзеля спаўненьня для іх ролі «Санта Клос-а».

Усе магазыны багацейшых у сьвеце дзіцячых забавак высіляюцца адзін перад другім, каб як мага прынадней паказаць свой тавар.

Перадсьвяточнай рэклямна-гандлёвай гарачкай ахопліваюцца пагалоўна ўсе магазыны наагул. Унутры й навонкі ўжо на пачатку сьнежаня ўпрыгожваюцца ўсе буйнейшыя ўнівэрсальныя магазыны. Выстраеныя вітрыны пачаткова маюць чыста камэрцыйны характар, а ўжо ад сярэдзіны сьнежаня там зьяўляюцца сьвяточна-калядныя дэкарацыі, на якія выдаткоўваецца дзесяткі тысячаў даляраў.

Гэтак буйнейшы ўнівэрсальны магазын на 5-ай авэню й розе 38-ай вуліцы, Лорд і Тэйлор у Нью-Ёрку, фасад свайго будынку (75 футаў вышыні) упрыгожыў сёлета вялізарнай ялінкай з васьмёх тысячаў электрычных лямпачак, рознакаляровае мірганьне якіх можна бачыць здалёк: з 96-ай вуліцы з аднаго канца й з Вашынгтон сквэру — з другога.

Унутры магазын густоўна ўдэкараваны шматлікімі сцэнкамі аб'еднанымі агульнай тэмай — «Лясная фантазія». Запраўдныя ды казачныя жыхары лясоў у раскошных строях ілюструюць казкі й лягенды, прыкладам, жвавыя каты зь лютымі вусамі ў вопратцы францускіх мушкетэраў сьцерагуць залатую карону на высокім дрэве, павы ў паветры імчаць багатую калясьніцу, у якой важна ўселася каралеўская пара аленяў у мантыях.

У верхняй частцы Пятага авэню, як заўсёды, маляўніча прыхарошаны гірляндамі франтон магазыну Сакс. У цэнтры, на бальконе — традыцыйныя харыстыя ў чырвоных хітонах.

Амаль кажны магазын уздоўж цэнтру Пятага авэню ўпрыгожаны каляднымі гірляндамі, сьвечкамі ды бліскучымі рознакаляровымі арнамэнтамі.

34-ая вуліца — другі па багацьцю Пятага авэню гандлёвы цэнтр. Тут у Опэнгайм і Коллінс пабудавана калядная хатка з Санта Клос-ам на коміне. Увесь фасад магазыну Мэйсі заліты бліскучымі рознакаляровымі агнямі. Над кажнай вітрынай складаныя рухомыя сцэны, прыкладам: вуліца старажытнай Гішпаніі з кавалерамі й прыгажуньнямі ў карункавых шалях, карнавал у Рыме, Вэнэцыя з гандальерамі, вуліца кітайскага Кантону і пад. Нарожная вітрына ў Гімбэла заменена ў фантастычнае царства Санта Клос-а, які што 15 часінаў зьяўляецца сам у спэцыяльнай інсцэнізацыі. У такіх пунктах заўсёды людна й цяжка праціснуцца — натоўп дзяцей і дарослых.

У калядны пэрыяд у найбольш ажыўленых раёнах Нью-Ёрку ўстанаўляецца шмат прыгожа ўдэкараваных ялінак розных памераў. Першае месца сярод гэтых займае пышная вялізарная яліна ў цэнтры Рокфэльлер Плаза, заўсёды упрыгожаная вялікімі чырвонымі, белымі й зялёнымі шарамі із плястыкі (панад 1 000 шароў). Асьветленьне яе — 3 000 маленькіх зь мігаценьнем лямпачак. Сад перад пляцам штогод замяняецца ў чарадзейскі лес, запаўняны вычварнымі стылізаванымі з дроту жывёламі: — алені, вавёркі, зайцы і інш.

Уздоўж найбольш шырокай і фэшэнэбэльнай магістралі Мангэттану (галоўнага абтоку вялікага места Нью-Ёрку) — Парк Авэню, ад 96-ай да 34-ай вуліцы ўстаноўлены сёлета ялінкі ў чэсьць тых, што загінулі ў другую сьветавую ды карэйскую войны.

Упрыгожваюцца не адно вялікія магазыны (яны найбагацей), дэкаруюцца вітрыны ўва ўсіх, навет найдрабнейшых крамках. Ялінкі ставяцца ўва ўсіх установах і хвабрыках.

Найцікавей, асабліва пры вячорным асявятленьні, выглядаюць прадмесьці, г. зн. рэзыдэнцыйныя раёны (раёны зь вільлямі, адно й двуфамілійнымі дамамі, воддаль ад г. зв. «бізнэс» цэнтраў). Тут кажны дамаўласьнік імкнецца як мага найлепш прыхарашыць свой дом і дзялянку ад фронту, ад вуліцы. Каляровае асьвятленьне й бліскучыя ялінкі ўстанаўляюцца звычайна на ашклёных або адчыненых вэрандах дому, над франтовымі дзьвярыма вешаюцца вянкі з хваёвых ці яловых галінак з уплеценымі дубовымі ці кляновымі лісткамі, прысыпаныя «сьнегам», а часта із сьвечкамі ў цэнтры. На вокнах — папяровыя срыбныя ды залатыя званочкі, сьвечкі, батлейкі, а карнізы й слупы ганкаў абвітыя істужкай з рознакаляровых лямпачак, якія шточасінна то гаснуць, то зноў запальваюцца.

Перад домам, калі дазваляе плошча, часта ставяцца ўсялякія фігуры: алені, Санта Клос на санках запрэжаных аленямі й пад. Вельмі часта перад дамамі ілюмінуюцца жывыя дрэвы-яліны, нярэдка наўзроўні даху двухпавярховага будынку.

Вонкавая дэкарацыйнасьць у калядны пэрыяд ня ёсьць уласьцівасьцяй аднаго Нью-Ёрку — гэта агульны звычай усяе Амэрыкі.

У кажным горадзе, у больш ажыўленых частках, на скрыжаваньнях вуліц ды перад буйнейшымі магазынамі, у працягу цэлага каляднага пэрыяду, стаяць дабраахвотнікі, пераапранутыя за Санта Клос-аў, звоняць у званочкі, заклікаючы прахаджан складаць грашовыя ахвяры на бедных у тут-жа побач пабудаваныя чырвоныя каміны. Іншыя «валюнтэры» із «Салвэйшэн Армі» (Арміі ратаваньня) на вуліцах граюць на ўстаноўленых электраарганах ці іншых інструмэнтах, сьпяваюць «Крыстмэс коралс» (калядныя песьні) і таксама зьбіраюць ахвяраваньні.

Амэрыканскі народ наагул вельмі ах-

(Заканчэньне на 7-ай бач.)

# Беларускія калядкі

Беларускія калядкі маюць вельмі старадаўнае паходжаньне, як атрыбут і неабходная частка яшчэ першабытных, анімістычных абрадаў у гонар бога сонца Ярылы, што ладзілася на сустрэчу новага сонечнага году.

У залежнасьці ад гэтага набывала вялікі інтэрас і самое музычнае будаваньне калядных матываў, што паказвалі нам архаічныя ладавыя фармаваньні і, гэтак званыя, гукальныя інтанацыі, — яскравыя выразьнікі анімістычнага, магічнага, старадаўняга культу. У далейшым калядкі разьвіваліся і ўзбагачваліся і зьмястоўна і музычна. Вялікі й фундамантальна-нутраны ўплыў на калядкі мела рэлігійная, хрысьціянская ідэя (з прыняцьцем хрысьціянства) і як частка яе — калядная батлейка (лялькавы тэатр на Беларусі XV—XVIII ст. ст.), прысьвечаная сьвяту Божага Нараджэньня.

Успрымаючы ў сябе розныя тэкставыя матывы калядкі сталіся вельмі разнастайнымі паводля тэматыкі й жанру, адказвалі на розныя патрабаваньні й густы. У васноўным іх можна падзяліць на 1) калядкі, што ўслаўляюць прыроду (новы сонечны год), якія йдуць непасрэдна ад анімістычнага культу; 2) калядкі рэлігійнага зьместу, або батлейкі (назоў песьня-калядка застаўся ад батлеечнага спэктаклю, што адыйшоў у мінулае); калядкі віншавальныя, зь якімі вітаюць гаспадароў і перадаюць ім добрыя пажаданьні; 4) калядкі любоўнага зьместу, у якіх дастатак і плоднасьць гаспадаркі выклікае асацыяцыю плоднасьці сям'і, пары сватаўства й жаніцтва; 5) калядкі дзіцячыя, галоўным чынам гумарыстычнага зьместу: 6) калядкі іграваога, гульнёвага тыпу.

Ня гледзячы на такі розны выгляд і характар беларускіх калядак, яны ўсе, амаль што, як правіла, захоўваюць шматгадовыя традыцыі свайго паходжаньня й будуваньня.

Шмат вучоных дасьледнікаў ведалі й асабліва цанілі беларускія калядкі, батлейкі ды сьцьвярджалі вялікую іх культурна-нацыянальную выхаваўчую вартасьць у гісторыі нашага народу. Некаторыя з калядак заслужылі на асаблівую пашану й любоў. Такія зь іх як «А ў лузе, лузе красна каліна» (рэлігійная), «Добры вечар тому, хто у гэтым дому» (віншавальная), «Саўка ды Грышка» (дзіцяча-гумарыстычная), «Там за садамі каляда» (любоўная), «Каза» (гульнёвая) і шмат іншых ня страцілі сваёй вялікай папулярнасьці й дагэтуль.

Аднак трэба сказаць, што з прычыны таго, што запісы беларускага фальклёру вяліся бяз сыстэмы і ўпарадкаваньня, залежалі вылучна ад густаў і жаданьняў зьбіральнікаў, калядных песьняў запісана параўнальна мала, а з нотнымі запісамі іх і зусім бедна. Яшчэ перад першай вайной і рэвалюцыяй нашы ведамыя пісьменьнікі як Цётка й Бядуля заклікалі краязнаўцаў зьвяртаць увагу на зьбіраньне беларускіх абрадавых песьняў, у тым ліку калядак і батлеек. Таму, зусім зразумела, што ў 20-ых гадох, калі ў БССР панаваў яшчэ нацыянальна-адраджэнскі рух, Інстытут Беларускай Культуры пастанавіў паважна й рупліва заняцца вывучэньнем і зьбіраньнем абрадавых фальклёрных матар'ялаў (асабліва рэлігійных песьняў), арганізаваў дасьледныя экспэдыцыі й за кароткі час здолеў сабраць вельмі каштоўны матар'ял.

«Сацыялістычны наступ» бальшавікоў на нацыянальную Беларусь грунтоўна зьмяніў тут становішча ды старадаўны беларускі фальклёр падпадае пад савецкі перасьлед. Калі йдзе аб абрадавы, асабліва рэлігійны зьмест, дык ён проста трапляе пад забарону.

Навет, пасьля 40-гадовага юбілею савецкае ўлады, мы бачым працяг гэтага перасьледу. Зусім нядаўна выйшаў з савецкага друку зборнік песень Р. Шырмы, дзе прыведзена рад абрадавых песьняў, у тым ліку й калядак і дзе партыйная цэнзура вычыркнула ўсе тыя тэксты, што былі павязаныя із сьвятам Божага Нараджэньня. Пару год таму адзін з савецкіх беларускіх музыказнаўцаў (Г. Цітовіч), пэўна выконваючы партыйны наказ, імкнуўся пераканаць сваіх чытачоў у наіўным сэньсе беларускіх калядак у тым, што ня гледзячы на калядныя прыпеўкі, гэтыя песьні нічога

(Заканчэньне на 7-ай бач.)

# Замест адказу

Ужо ад даўжэйшага часу бальшавіцкая агентура ўва Ўсходнім Бэрліне — гэтак званы «Камітэт за вяртаньне на радзіму» — праз сваю аднайменную газэтку й радыё падае рознымі спосабамі хвабрыкаваныя лісты ад імя суродзічаў на бацькаўшчыне, сьціраваныя на адрас іхных сваякоў на эміграцыі. У гэтых лістох, як ведама, эмігрантаў запрашаюць вяртацца на бацькаўшчыну.

Ведама таксама, што ўва Ўсходнім Бэрліне дзеіць і «беларуская» філія гэтага камітэту, якая рознымі спосабамі заманьваньня, шантажу і пагрозаў «абслугоўвае» беларускую эміграцыю. У гэтай акцыі бальшавіцкая агентура стараецца граць на найбольш чулых струнах душы беларускага эмігранта, на ягонай прывязанасьці да роднага кутка, на сямейных пачуцьцях — тузе па сваіх родных на Бацькаўшчыне. У гэтай нячэснай, падступнай ігры яны не шкадуюць навет пачуцьцяў матак, якіх часта змушаюць даваць згоду стаўляць іхныя імёны пад прадыктаванымі спэцыяльнымі органамі зваротамі да іхных сыноў і дачок на выгнаньні.

Але ня першы раз у ймя свабоды пайшлі патрыёты на выгнаньне й ня першы раз па іх на бацькаўшчынах сумуюць іхныя маткі. Але хоць ня першы раз тыранія стварала выгнанцаў, іхны лёс і іхная пастава характэрна аднолькавыя для ўсіх часоў, народаў і абставінаў.

У доказ гэтага мы перадрукоўваем ніжэй верш польскага паэты Юліюша Славацкага ў перакладзе Я. Семяжона, зьмешчаны ў 9-ым нумары менскага часапісу «Маладосьць». Ня гледзячы на больш векавую даўнасьць, гэты верш можа быць і нашым адказам сяньняшнім прыгнятальнікам беларускага народу.

І так беларуская народная мова ня здолела ўсёцэльна стацца літаратурнай мовай аж да 19 ст., хоць мела ўсе на гэта магчымасьці. Атруціла яе царкоўна-славянская старасьвеччына, так наіўна й неразумна падтрымоўваная праваслаўнымі «культурнікамі» канца 16 і 17 ст. ст.

* * *

Трэба сьхіліць галаву перад вялікімі нашымі першымі адраджэнцамі Равінскім, Бахрымам, Баршчэўскім, Чэчатам, Каліноўскім, Марцінкевічам і Багушэвічам, якія пайшлі адзіным праўдзівым шляхам, на які трэба было ўступіць іх папярэднікам яшчэ у часе рэфармацыі 16 веку. Яны ўсё чыста адкінулі аджылую штучную літаратурную мову В К Л зь яе ўсімі шкоднымі дадаткамі, а ўвялі ў поўнай красе ў сваю творчасьць жывую мову народу так лацінскімі, як і кірылічнымі літарамі. Гэта быў геніяльны пачын, які сілай гістарычных і грамадзкіх законаў мусіў прывесьці да адраджэньня нашага народу, нягледзячы на варожы й жудасьны ў сваіх мерах маскоўскі й польскі наступ. Гэтым праўдзівым адраджэнскім шляхам пайшла «Наша Ніва» й усе адраджэнцы апошняга пэрыяду. Уратавала гэта наш народ ад загубы.

І вось нашае нацыянальнае няшчасьце — Масква — адразу зразумела сутнасьць нашага адраджэньня. Яна не адабрала нам нашай запраўднай народнай літаратурнай мовы, але пайшла забойчым шляхам, пачала насільна хвальшаваць нашу мову, адхіліла яе гукавы правапіс, лацінскі альфабэт, увяла маскоўскі граматычны шаблён ды запаганіла літаратурную мову русыцызмамі, палянізмамі і іншымі чужымі словамі, так што так званая «беларуская мова» БССР сталася нанова адарванай ад народу, сталася нейкім жаргонам няпрыемным для народу. Да гэтага школьніцтва сталася не беларускім, а маскоўскім. Вынікі ўсяе гэтае акцыі ўжо відавочныя: Беларусу лягчэй пісаць памаскоўску, чымся «сваёй» літаратурнай мовай. Як бачым, русыфікацыя прыняла таксама выгляд «дабравольнасьці», як гэта было ў мінуўшчыне з «палянізацыяй».

### Моўная й культурная заканамернасьць паўтараецца

Якая абарона перад новым «наступам»?

Яе падказвае гісторыя. Ёсьць толькі адзіная абарона. Гэта цьвёрдая барацьба з адыходам ад жывой мовы народу, з усякімі правапісамі, якія засланяюць гукавыя асаблівасьці народнай мовы, з усякімі чужымі словамі, якія яшчэ не асвоеныя народам, з усякімі дзівачнымі наватворамі, якія выклікаюць толькі насьмешку ў людзей, з усякімі сяньня перажытымі словамі й зваротамі, адгрэбванымі з старасьвеччыны магчыма яшчэ ня нашай. Мова наша мусіць вярнуць да раўнапраўя абедзьве літарніцы: лацінку й беларускую кірыліцу. У першую чаргу павінны гэтым шляхам пайсьці нашыя часапісы, кніжкі, друкі тут на чужыне. Усе тыя, што захапляюцца сваім «наватворствам», як рэдактары «Сяўбіта», «Зьніча» і іншых часапісаў, павінны зразумець, якую шкоду яны прыносяць нашаму адраджэньню, як яны лёгка зьнеахвочваюць сваіх суродзічаў, якія ў сілу розных падзеяў прасяклі чужымі культурнымі ўплывамі, перахавалі ў сабе толькі жывую народную мову, якая далёка ня сугучная з так званай «беларускай літаратурнай мовай». Страшэннае перакручваньне нашай мовы, моўнае дзівацтва выклікае агіду ў нацыянальна-сьведамага й пісьменнага чалавека. Мыліцца той, хто думае, што гаворкай зможа «зьбеларушчыць» людзей, адышоўшых ад нашай вызвольнай справы.

**Мікола Волаціч**

ЮЛІЮШ СЛАВАЦКІ

## ДА МАЦІ

Ці раз абальецца крывёй тваё сэрца пры стрэчы
З усімі, што ўжо на радзіме прыняты.
Ты будзеш клясьці тую зброю, што муляла плечы
І дух гартавала ў сына-салдата.

Я знаю: вяртаньнем прадоўжыў-бы век твой на годы.
Аднак, хто спытае, кажы, што вярнуся ня хутка,
Што сын твой, як пёс на пасту пры штандары свабоды;
Ты клічаш, а ён толькі гляне у скрусе і смутку,

Пашле толькі позірк, а сам не памкнецца ніразу.
Табе-ж гэты позірк — адкрытая кніга сумленьня:
Хто прагне свабоды, ня вернецца той на абразу,
Ён прыме лепш сьмерць, а ня згодзіцца жыць на каленях.

Даруй яму, маці, ня думай благога аб сыне.
Ня многа зайздроснага ў горкім выгнаньніцкім лёсе.
Павер, — калі-б мог ён пакінуць свой пост пры сьвятыні,
Табе ў непазбыўнай тузе зьнемагаць ня прышлося-б.

1838 г.

Пераклаў **Я. Семяжон**

(«Маладосьць» № 9, 1959 г.)

# Наш удзел у Міжнароднай Жаноцкай Выстаўцы

У 1959 г. Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне (філія БАЗА) брала першы раз удзел у 36-ай з чаргі Міжнароднай Жаноцкай Выстаўцы, якая трывала ад 2-га да 8 лістапада ўключна.

Выстаўку арганізаваў Жаночы Інтэрнацыянальны Інстытут, да якога належаць шматлікія разнанацыянальныя (40) арганізацыі 25 нацыянальнасьцяў. Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне зьяўляецца таксама сябрам гэтага Інстытуту.

**Як выглядалі нашыя стэнды**

Мы мелі на Міжнароднай Выстаўцы два стэнды. Адзін з рознымі рукадзельнымі мастацкімі вырабамі, як дзяружкі, вышываныя й тканыя нацыянальныя беларускія касьцюмы, ручнікі, тканыя паясы, краваты, рэчы аздобленыя беларускім арнамантам з саломкі, лялькі ў нацыянальнай вопратцы, альбомы і іншыя дробныя рэчы. Другі стэнд быў афармлены як беларуская хата з покутам, сталом накрытым тканым настольнікам (сп-ні Кудасавай) і навет павуком з саломы (глядзі фатаздымку).




**Культурны стэнд на выстаўцы ў выглядзе беларускай хаты**

Адна сьцяна гэтае хаты была выкарыстаная для разьмяшчэньня абразоў мастака П. Міpановіча. На гарманізуючых з кажным абразом дзяружках віселі тры абразы. Яны прадстаўлялі: 1. Надыходзячую буру пры зборцы сена; 2. Каплічку на вясковых могілках і 3. Старую сялянку (матку мастака) каля капы снапоў. Усе тры абразы надзвычай прыгожыя, яны сваёй высокай мастацкай вартасьцяй адразу паднялі наш гэты культурны куток на адпаведні мастацкі ўзровень (глядзі здымку).

Фрагмэнт галоўнага стэнду можна пабачыць на наступнай фотаздымцы. Дзяўчаты ў нацыянальнай вопратцы (зь лева на права Р. Станкевіч, П. Грудзько, А. Зыбайла) — гэта сяброўкі Згуртаваньня Беларускае Моладзі, якія якраз былі на выстаўцы. На гэтай здымцы ня відаць фронту стэнду, дзе стаяў вялікі стол засланы вельмі прыгожым абрусом з мастацка выкананай шырачэзнай мэрэжкай (Сп-ні Н. Орсы), на якім былі разьмешчаны розныя прыгожыя рэчы, як рэчы зь беларускім арнамантам вылажаным саломкай (працы Сп-ра Сільвановіча), лялькі ў беларускай вопратцы (выканала бязінтэрасоўна для выстаўкі Сп-рыня Н. Кулеш), іншыя лялькі ахвяраваныя Сп-няй Ганэцкай, Сп-няй Зыбайла і Сп-няй Каваль, і шмат іншых рэчаў. Пры афармленьні стэндаў працавалі: беларускую хатку аформіла Сп-ня Т. Стагановіч, памагала Сп-ня Д. Каваль і іншыя; пры разьмяшчэньні абразоў і дзяружак працавалі Сп-ня Н. Орса, Сп-ня Н. Арсеньнева, Сп-р Шукелайць. пры афармленьні нацыянальнага стэнду працавалі: Сп-ня Рая Станкевіч, Сп-ня Д. Каваль, Сп-ня З. Станкевіч і іншыя.

**Беларускі канцэрт на выстаўцы**

На другі дзень выстаўкі 3-га лістапада меўся быць беларускі канцэрт у залі выстаўкі. Каб зарганізаваць канцэрт, мне давялося зьвярнуцца да кіраўнічкі Танцавальнага Гуртка Згуртаваньня Беларускае Моладзі спадарычні Алы Орсы. Мы ведалі, што найлепш на такіх міжнародных канцэртах успрыймаюцца народныя танцы, а Танцавальны Гурток Моладзі мае за сабой ужо заслужанае прызнаньне. Спадарычня Ала, як заўсёды, калі справа ідзе аб рэпрэзэнтацыі навонкі нашае нацыянальнасьці, ахвотна пагадзілася і пачала рэгулярна пробы з Гуртком. Рыхтавалі аж 4 танцы. А іграць да танцаў пагадзілася Сп-рычня Галіна Орса. Спадар кампазытар М. Куліковіч не адмовіўся і на нашую просьбу прыслаў зусім новую сваю апрацоўку народнае песьні «Ігруша», спэцыяльна датарнаванай да голасу салісткі Сп-рыні Клавы Ярашэвіч. Акампаніяваць спявачцы дала сваю згоду Сп-ня Ракоўская. Мы даведаліся, што ўсе нацыянальнасьці ў праграме такіх канцэртаў карануюць што-году новую каралеву прыгажосьці. Нам было-б сорамна ня мець такое каралевы. Але мы ніяк не маглі зрабіць агульнаамэрыканскіх выбараў — ня мелі часу, дык бяручы пад увагу, што Сп-ня Вера Бартуль была на розных балях выбіраная каралевай балю, мы і папрасілі яе даць згоду на каранацыю.

У ночы з 1-га на 2-ое лістапада памёр Сьвятой Памяці Доктар Александар Орса. Гэта балючая і нечаканая страта ўзварушыла і як-бы спараліжавала ўсю нашу ньюёркаўскую беларускую калёнію, у тым ліку і нас жанчынаў — арганізатарак выстаўкі. Гэта-ж мы ў нядзелю да позьнага вечару (да 11 гадз.) разам з Сп-няй Н. Орсай працавалі пры ўладжваньні нашага культурнага стэнду. Вярнуўшыся да хаты, Спадарыня ўсё падрабязна расказала мужу, якога заўсёды кажная нацыянальная праца так цікавіла. Доктар Орса навет жартаваў і даваў парады дзеля афармленьня выстаўкі, а заснуўшы, больш ня ўстаў.

Трох працаўнічак, якія меліся дапамагчы нам ў сувязі з выстаўкай, ня стала. А трэба-ж было і далей працаваць, дзяжурыць, адбыць неяк канцэрт. Трэба было, але амаль не пад сілу была гэтая патрэба. Такой непатрэбнай, бязсэнсавай здавалася ўся нашая мітусьня з гэтай выстаўкай перад супакоем сьмерці і бязьмежным болем.

Памагла моладзь. Яны — маладыя разважалі рэальна: Танцавальны Гурток мае выступіць, бо гэта ягоная нацыянальная нагрузка, праца. На праграмах выдрукаваных ў адмысловай кнізе ўсім да ведама падавалася аб беларускім канцэрце, пададзена было і імя кіраўнічкі Гуртка, Сп-ні Алы Орса, дык і ёй будзе прыемна, калі выступ не сарвецца. А як-жа з музыкай, нотамі? — Знайшлася і тут рада. С-ня праф. Эльза Зубковіч пагадзілася напісаць па слуху з кружэлак ноты і граць да танцаў.

Канцэрт адбыўся. Яго Праасьвяшчэнства Уладыка Васіль прачытаў на беларускай мове малітву за ўсе народы паняволеныя бальшавізмам і сказаў кароткае прывітальнае слова. Вельмі прыгожа гучэў беларускі нацыянальны гімн у вялікай залі, выкананы на фартапіяне С-няй праф. Э. Зубковіч. Прыгожа пяяла Сп-ня Клава Ярашэвіч «Калыханку» кампазыцыі М. Куліковіча і народную песьню «Ігруша».




**Фрагмэнт галоўнага стэнду**

Вельмі добра танцавала беларускія танцы моладзь.

Сьціпла (бо-ж Беларускі ўсе сьціплыя), але адначасна вельмі прыгожа рэпрэзэнтавалася нашая нова ўкаранаваная каралева Спадарыня Вера Бартуль у васысьце свае гвардыі — дзяўчат з Танцавальнага Гуртка Моладзі.

**Дзіцячая імпрэза**

3-га лістапада групы дзяцей усіх нацыянальнасьцяў (у тым ліку і беларуская група дзяцей) прымалі ўдзел у вадымысловай дзіцячай імпрэзе. Некаторыя з удзельнікаў нашае групы спазьніліся, а таму, што Беларусы выступалі першыя, дык і не маглі ўзяць удзелу ў выступе, хоць падаркі і атрымалі пазьней. На сцэне было толькі 4 дзяцей. Але выглядалі яны прыгожа і ўсім падабаліся. Іх фатаграфія будзе зьмешчана ў «Каласках».

**Інфармацыя пра Беларусь у часе дзяжурстваў**

Было вялікай ахвярай з боку Сп-ні М. Станкевіч, што яна ўзяла звальненьне зь месца працы на ўвесь час выстаўкі. Выстаўка пачыналася ад 1-ае гадз. да 10.30. Дык яна і дзяжурыла найбольш. Мне давялося дзяжурыць тры разы. Дзяжурылі й іншыя: Сп-ня О. Запруднік, Сп-ня П. Клінцэвіч, Сп-ня Кушаль, Сп-ня Кахаоўская, Сп-ня Д. Каваль, Сп-ня Мельяновіч, Сп-ня Тумаш, Сп-ня Зыбайла, Сп-ня С. Цэлеш, Сп-ня Пазьняк і іншыя і моладзь. Хоць дзяжурствы моладзі ня былі спэцыяльна арганізаваныя, моладзь прыходзіла. Найбольш хіба прысьвяцілі часу: Рая Станкевіч, Ніна Каваль, Оля Мельяновіч, Анна Зыбайла, Слава Цэлеш, і іншыя. А ў ваўторак у дзень канцэрту амаль усе сяброўкі й сябры Згуртаваньня Моладзі зьявіліся на выстаўцы. У прыгожай нацыянальнай вопратцы яны рабілі добрую прапаганду й інфармавалі наведвальнікаў.

На працягу часу трываньня выстаўкі (7 дзён) звыш 63 гадзінаў інфармавалі і тлумачылі пра Беларусь дзяжурныя тысячам і тысячам чужынцаў і сустракаліся із спачуваньнем, спагадай, вялікім зацікаўленьнем. Бывалі мамэнты, што расчулялі да сьлёз. Мне, ня ведаючай добра ангельскае мовы, давялося тлумачыць аднаму маладому студэнту пра Беларусь, бо ён сам паходзіў таксама стуль, ягоны бацька быў зь Менску. Ён сарамліва і зь нейкай затоенай тугой глядзёў на нашы экспанаты і ўсё пытаў і пытаў. Я прабавала тлумачыць, але ішло цяжкавата, ён адыйходзіў, але за нейкі час ізноў вяртаўся і зноў пачынаў гаварыць: «Мой тата быў зь Менску, Менск такі прыгожы горад, казаў ён, цяпер ужо даўно бацька памёр, я забыўся гаварыць пабеларуску . . .», аж раптам убачыўшы кружэлку зь беларускімі народнымі песьнямі, ён кінуўся да яе. Запісаў адрыс, дзе яе можна купіць, доўга, доўга разглядаў прыгожую кніжку, прысланую нам з Чыкаго, напісаную кірыліцай, прабаваў чытаць, хваляваўся і ўздрыгваў, вінавата ўсьміхаўся й адыходзіў, каб стаць крыху далей і ўсё глядзець на наш стэнд. Падыйходзілі і старыя эмігранты, Беларусы з паходжаньня, падыйходзілі асьцярожна, баючыся нечага, а мо' гэта савецкая Беларусь? Але зразумеўшы, расказвалі, давалі свае адрасы, пыталі, дзе можна з намі спаткацца. Некаторыя фатаграфавалі наш стэнд з усіх магчымых бакоў, доўга, доўга прыглядаючыся да тканых дзяружак і ручнікоў. Відаць сваё роднае брала сэрца ў палон і прыцягала як магніт.

Адна жанчына (гутарыла папольску) выкупіла ў мяне амаль усе піражкі, а была іх ладная колькасьць, прыводзячы да нашага стэнду ўсё новых і новых сваіх знаёмых. А ўканцы мне прызналася, што яна фактычна-ж Беларуска з Гомелю. Гэта толькі пару прыкладаў з аднаго кароткага дзяжурства, а такіх прыкладаў было шмат больш.



**Абразы мастака П. Міpановіча на Выстаўцы: 1) Бура, 2) Каплічка, 3) Беларуска (маці мастака)**

**Як рэагавалі на наш удзел у выстаўцы нашыя суседзі**

Вельмі прыемна было чуць прыязныя, поўныя зразуменьня й прызнаньня сло-

(Заканчэньне на 8-ай бач.)

## БЕЛАРУСКІЯ КАЛЯДКІ

(Заканчэньне з 6-ай бач.)

агульнага з рэлігійнасьцяй і звычаямі ня маюць, што такіх звычаяў, быццам, на Беларусі й ня існавала.

Гэтак бязьлітасна й жорстка нішчыцца бальшавікамі культурная нацыянальная беларуская спадчына, найбольш характэрнае, своеасаблівае й арыгінальнае народнае мастацтва. У «найбольш перадавой» й «мірнай» краіне нашым мілым калядкам месца няма, як і тым абрадам і звычаям, што іх парадзілі.

Мы тут у вольным сьвеце мусім быць шчасьлівыя, што можам вольна сьвяткаваць сваё вялікае рэлігійнае сьвята Божага Нараджэньня. Тут у нашых беларускіх сьвятынях, у грамадзкіх залях, у школках ды собскіх дамох ніхто не забараняе нам аднаўляць і пашыраць свае традыцыі, абрады й звычаі. Красуюць нашыя сьвятыні пры калядных Багаслужбах, зьзяюць ялінкі, у многіх асяродках ходзяць з хаты ў хату калядоўшчыкі-зорачнікі із зоркаю-панарамаю, пяюць батлейкі калядкі, віншуюць суродзічаў і перадаюць сьвяточныя пажаданьні.

Мы шлем малітвы Божаму Дзіцятку за нашую шматпакутную Беларусь. І так як гэта сьпяваецца ў ваднэй прыгожай калядцы

«Узрасло Дзіця Гасподзь Бог,
Праўды сьвет знайсьці Ён нам дапамог»,

— мы верым, што зазьзяе сьвятло Божае й над нашай краінай і Хрыстос дапаможа нам усім знайсьці Божую Праўду.

**Мікола Куліковіч**

*З нагоды Калядных Сьвятаў і Новага Году, як новага так і старога стылю, а. Робэрт ван Каўэларт дэ Вілс і беларускія студэнты зь Лювэну, гэтай дарогаю перасылаюць усім Беларусам сябром і знаёмым свае найлепшыя й найшчырэйшыя пажаданьні: шчасьця, здароўя і посьпехаў у адданасьці нашым нацыянальным традыцыям.*

*Хай-жа з Новым Гадком новы бліжыцца час,*
*Брацтва, роўнасьць, супольнасьць і згода!*

*(Я. Купала)*

# Каляды ў ЗША

(Заканчэньне з 6-ай бач.)

вярны, а ў калядны пэрыяд асабліва. Міліёны пачак-падарункаў і грашовых чэкаў высылаецца ў гэтым часе ў розныя канцы сьвету прыватнымі асобамі ды арганізацыямі. Усе ахвяраваньні на дабрадзейныя арганізацыі дазваляецца фэдэральным урадам адлічаць ад падатку.

Кіно й тэлевізыйныя праграмы ў гэтым часе стараюцца даваць найбольш багатыя паказы, пераважна на тэму сьвяткаваньня. Гэтак найвялікшы кінатэатр Нью-Ёрку — Рэдыё Сіты — Мюзік Гол, апрача каляровага фільму, выступленьня харэаграфістых ды жывых актораў, на працягу паўмесяца дае перад пачаткам кажнага сэансу на вялізарнай змадэрнізаванай сцэне адмысловую калядную праграму, у якой выступае цудоўны хор, а праз сцэну на вярблюдах праяжджаюць у раскошным адзеньні ды зь вялікай красачнай асыстай Тры Каралі з багатымі дарамі для нованароджанага Хрыста . . .

Хіба нідзе ў сьвеце ня высылаецца гэтульki прывітальных калядных паштовак, як у ЗША. Тут нельга абмінуць нікога, картку неабходна выслаць усім: бацьком, сёстрам, братом, усім родным наагул, усім блізкім і далёкім знаёмым, сваім «босам», сябром, суседзям (аўтару гэтых радкоў штогод даводзіцца высылаць панад 100 паштовак!). Нічога тады дзіўнага, што пошта ў апошнія тыдні перад Калядамі завалена карэспандэнцыяй, пачкамі й таму набірае тымчасова шмат дадатковых працаўнікоў.

Апрача паштовых прывітаньняў, ня менш важнай, а мо' й найгалаўнейшай гарачкай ёсьць абавязак даваць падарункі. Кажны павінен знайсьці нейкі сьвяточны падарунак пад ялінкай. Нельга ў Каляды выйсьці зь візытай да знаёмых ці прыяцеляў або родных без падарункаў. Навет у больш паважнейшых установах і прадпрыемствах працаўнікі атрымоўваюць падарункі ад сваіх шэфаў, апрача гэтага часта й грашовыя «бонусы» ў памеры адно-двухтыднёвага а то й вышэй заробку. Прадпрыемствы і ўстановы для сваіх работнікаў ладзяць або ў сваіх памешканьнях або ў рэстаранах г. зв. «Крыстмэс парты» (Каляднае прыняцьцё з музыкай, скокамі, выпіўкай і закускай за кошт прадпрыемства).

Гандлёвыя звароты ўсіх магазынаў бяз вынятку ў перадкалядны пэрыяд падвойваюцца й патройваюцца. Насельніцтва траціць у гэтым часе найбольш грошай за цэлы год, калі ня лічыць вакацыйнага пэрыяду. Каб мець напагатове адпаведную суму, вельмі распаўсюджаны ў ЗША г. зв. «Крыстмэс клюбы». Сябры такіх клюбаў адразу-ж пасьля Каляд пачынаюць думаць пра наступныя Каляды, бяруць з банкаў спэцыяльныя кніжачкі-купоны, на якія штотыднёва адкладаюць невялікія сумы, каб мець пакрыцьцё на падарункі ў наступныя Каляды.

У ноч (звычайна а 12 г.) з 24-га на 25-ае сьнежаня ўсе сьвятыні перапоўнены. Усюды адбываюцца ўрачыстыя багаслужбы, якія з большых сьвятыняў транслююцца на радыё й тэлевізыі. Дзіўна толькі тое, што вялізарная па сваяму абсягу й часу гарачка, адразу-ж спыняецца 25-га сьнежаня. Каляды фактычна сьвяткуюцца адзін дзень. Добра калі яны прыпадаюць, як сёлета, у пятніцу, тады, тры дні сьвята, у іншым выпадку — пасьля 25-га сьнежаня ўсе ўпрыгожаньні паступова зьнікаюць, гандлёвы рух малее, а магазыны, каб прыцягнуць пакупнікоў, абвяшчаюць пасьлякалядную выпрадаж тавараў з даволі значнай зьніжкай.

Няма ў ЗША нашых прыгожых звычаяў, як хаджэньне із зьвяздой ды казой калядоўшчыкаў. Звычай гэты тамсям ад колькіх год уводзіць беларуская моладзь з новае эміграцыі. Шкада толькі, што нашыя калядоўшчыкі пакуль што абмяжоўваюцца абходам беларускіх дамоў; варта было-бы гэты абход пашырыць далей і на карэнныя амэрыканскія сем'і, пачаткава знаёмых ды суседзяў, а пазьней і шырэй.

**А. Сьвіслацкі**

# Зь беларускага жыцьця

## Таварыскі вечар Жаноцкага Згуртаваньня

10-га кастрычніка ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Брукліне адбыўся першы Таварыскі Вечар ладжаны Жаноцкім Згуртаваньнем (Адзьдзел Нью Ёрк). Мэтаю гэтага вечару было задзіночыць у сяброўскай атмасфэры беларускую грамадзкасьць Нью Ёрку, якая вельмі пасыўна ставіцца да паважнейшых культурна-асьветных вечароў і рэфэратаў. Але на жаль спроба ня мела спадзяванага посьпеху. Некаторыя не захацелі прамяняць утульнага фатэлю пры тэлевізары на супольную бяседу ў беларускай атмасфэры, іншыя пашкадавалі 2 даляраў за ўступ (на пакрыцьцё расходаў зьвязаных з прыгатаваньнем вячэры). Вельмі сумна было бачыць, як навет некаторыя сябры Галоўнай Управы БАЗА пасьля свайго паседжаньня ў тым-жа памешканьні бачком накіроўваліся да дзьвярэй.

У сьціплай колькасна, але тым цаньнейшай якасна грамадзе заселі за прыгожа накрыты і ўпрыгожаны жывымі краскамі супольны стол.

Яго Праасьвяшчэнства Уладыка Васіль прачытаў кароткую малітву й багаславіў бяседны стол. Сярод прысутных быў таксама айцец Хведар Данілюк. Сяброўская атмасфэра, багата застаўлены стол стварылі такі прыемны настрой. Пяялі разам беларукія народныя песьні, Спадарыня Н. Орса прачытала жартаўлівае апавяданьне Якуба Коласа «Недаступны». Прачытанае запраўды памастацку апавяданьне зацікавіла ўсіх, час ад часу чутны былі ўдалыя рэплікі, якія яшчэ больш давалі гумару. Было весела і так добра разам. Такт нейкага аргентынскага танга неяк замяняўся на такт лявоніхі і скакалі прыпяваючы лявоніху, якая так пасавала сюды. Гадзіны міналі, зьбліжалася поўнач, трэба было канчаць.

У сваёй заключнай прамове Сп-р Д. Клінцэвіч, старшыня Акругі БАЗА, дзякаваў жанчынам за ўдалы вечар і прасіў не пакідаць гэтае справы, і ладзіць далей такія вечары, дарма, што на першы ня шмат прыйшло людзей. Доўга за поўнач быў чуцён бадзёры вясёлы сьпеў у Беларускім Доме. Гэта Управа Жаноцкага Згуртаваньня ўпрыямняла сабе працу ваюючы з судзьдзём і выціралчкамі. Да наступнага разу — казалі адыходзячы ўдзельнікі нашае сьціплае імпрэзы.

Вельмі міла было з боку сяброўкі Д. Андрыцы, якая частуючы прысутных цукеркамі (ёю ахвяраванымі) зьбірала грошы на пакрыцьцё дэфіцыту зь вечару. Дык дэфіцыту й ня было. Варта рабіць такія імпрэзы часьцей, хай сабе хоць для агранічанае колькасьці ўдзельнікаў, якія захавалі жывую любасьць да беларушчыны, да свае песьні й адчуваюць патрэбу ў сваёй нацыянальнай атмасфэры.

**Сяброўка Жаноцкага Згуртаваньня**

## Беларуская аркестра „Бярозка“

Нядаўна зарганізавалася беларуская аркестра пад назовам «Бярозка». Склад яе даволі добры, бо хлапцы запраўды з жыцьцём ды да гэтага падабраныя музыканты. У групе ёсьць некалькі прафэсыянальных музыкантаў, якія маюць добрую пройдзеную падрыхтоўку і якія зьяўляюцца ядром групы. У аркестры «Бярозка» граюць: Жыдовіч Язэп — мандаліна (ён-жа й кіраўнік аркестры), браты Ўладзімер і Лявон Бычкоўскія — акардыён і бубен, Баўбель Сьцяпан — акардыён, і Казакоў Пётра — шорхаўкі («маракас»).

У праграме танцавальных вечароў «Бярозкі» знаходзяцца беларускія мэлёдыі й народныя танцы як: Лявоніха, Полька Янка, Бульба, Крыжачок, Мікіта, вязанкі беларускіх мэлёдыяў, ды іншыя. Галоўным салістым народных песьняў зьяўляецца Ул. Бычкоўскі, які чаруе слухачоў сваім прыгожым голасам.

Танцы заўсёды будуць распачынацца прыгожым вальцам «Бярозка», а заканчвацца — вальцам «Бывайце здаровы, жывеце багата»..., калі ў міжчасе Ўл. Бычкоўскі, ад імя аркестры складае падзяку прысутным, ды жадае, каб яны шчасьліва даехалі дадому-дахаты..., каб спаткацца наступным разам!

Удзельнікі «Бярозкі» ў бальшыні жывуць у Саўт Рывэры, Н. Дж., і ёсьць ведамыя нашаму грамадзтву.

Першае выступленьне аркестры «Бярозка» мае адбыцца на Каляднай ялінцы ў Нью Брансвіку, Н. Дж. Жадаем «Бярозцы» шмат посьпехаў у пашырэньні роднае песьні й музыкі!

**А. Кароль**

### БЕЛАРУСКІЯ ЎЗОРЫ Ў АМЭРЫКАНСКІМ ТКАЦТВЕ

Адна з найбольшых ткальных фірмаў у Задзіночаных Штатах Амэрыкі, Abney Mills, якая мае свае хвабрыкі ў паўночнай і паўдзённай Караліне, нядаўна пачала прадукаваць матар'ял для жаночага й дамашняга ўжытку зь беларускімі ўзорамі. Гэтымі ўзорамі зацікавіў фірму адзін Беларус, які ў ёй працуе.

### НЯПРОШАНЫЯ ГОСЬЦІ Ў ГРАМАДЗКІМ ДОМЕ Ў НЬЮ ЁРКУ

У начы з 27-га на 28-га кастрычніка 1959 г. быў зроблены ўлом у Беларускі Грамадзкі Цэнтр (401 Atlantic Ave. Brooklyn) няведамымі злачынцамі. Былі павыломваныя ўзе замкі ў дзьвярох, шафах і шуфлядах канцылярных сталоў, а таксама замкі ў паштовых скрынках Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ды іншых беларускіх арганізацыяў. Відаць, былі перагляданыя лісты, аднак грашовы пераказ (чэк), які быў у вадным зь лістоў — быў пакінуты.

### НАШАЯ ПЕСЬНЯ НА WQXR

У нядзелю папаўдні 29 лістапада 1959 г. радыёвая станцыя WQXR (Нью Ёрк) праз сваю паветраную сетку надала інтэрнацыянальную музыку. Між іншымі песьнямі была перададзена й беларуская песьня «А мой бацька добры быў», пры чым да песьні быў дадзены камэнтар, у якім гаварылася, што Беларусы маюць собскую апрычоную мову, якая належыць да сям'і моваў славянскіх.

Собсьнікам станцыі WQXR зьяўляецце найбольшая амэрыканская газэта «Нью Ёрк Таймс».

### 4-Ы НУМАР «БМ»

Хоць із спазьненьнем, аднак ужо выйшаў з друку чарговы 4-ы нумар часапісу беларускага маладога пакаленьня ў Амэрыцы — **«Беларуская моладзь».**

**Міхась Паляшук**



## Адказы Рэдакцыі

**Айцу А. Смаршчку ў Мэхэлене (Бэльгія) і сп. А. Каралю ў Нью Брансьвіку (ЗША).** У гэтым годзе Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» атрымала аж сем артыкулаў на каляднія й навагоднія тэмы, дзеля чаго надрукаваньне некаторых зь іх (у тым ліку й Вашых артыкулаў) прыйшлося адлажыць.

**Праф. Д-ру Я. Станкевічу ў Нью Ёрку (ЗША).** Рэдакцыя «Бацькаўшчыны згаджаецца надрукаваць падвалам і выдаць асобнай адбіткай запрапанаваную Вамі брашуру аб кнізе Цьвікевіча на ўмовах, Вамі пададзеных.

**Спадарыні Марыі Станкевічысе ў Нью Ёрку (ЗША).** Рэдакцыя «Бацькаўшчыны» атрымала адначасна аж дзьве справаздачы з удзелу Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня ў Нью Ёрку ў Міжнароднай Жаноцкай Выстаўцы народнага мастацтва ў Нью Ёрку. У сувязі з гэтым мы знайшлі магчымым надрукаваць толькі другую (ня Вашую) справаздачу, як больш поўную і заілюстраваную фатаздымкамі з Выстаўкі.

**Сп. А. Каралю ў Нью Брансьвіку (ЗША).** Прысланага Вамі дадатку да артыкулу «Інфармацыйныя зборкі» надрукаваць мы не маглі, бо гэны артыкул быў ужо зьмешчаны.

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

# Наш удзел у Выстаўцы

(Закапчэньне з 7-ай бач.)

вы з вуснаў Украінцаў. Усё-ж Украінцы найлепей паінфармаваныя пра нашую мінуўшчыну. Яны адразу пабачыўшы ў нас Пагоню і Маці Божую Вострабрамскую, казалі: «Што-ж, супольная гісторыя, дык і супольныя эмблемы». Яны віншавалі нас з удзелам у Выстаўцы, давалі парады, адным словам захоўваліся як запраўдны прыязны нам народ. Некаторыя Палякі таксама цёпла й сымпатычна зьвярталіся да нас з словамі прызнаньня й зразуменьня.

### Што зрабіла на мяне найбольшае ўражаньне

Калі-б мяне нехта папытаў: Што засталося ў мяне і застанецца на доўгі час у памяці з выстаўкі, я-бы адказала: Вельмі шмат, бязумоўна, самае прыгожае для мяне — гэта былі ручныя тканыя працы — тканыя яшчэ на нашай каханай бацькаўшчыне з нашага лёну, гэтыя тканіны, як-бы нашая родная глеба — нібы зямля. Усе арнаманты нашага народнага мастацтва такія здавалася-б нескладаныя і такія дасканалыя ў сваім прыгасцьве. Застануцца ў памяці надоўга гэтыя цудоўныя тканыя рэчы — дзяружкі, абрусы, ручнікі, сарочкі і абразы мастака П. Мірановіча з тым самым нацыянальным характарам. Абразы гэтыя-гэта таксама частка нашае радзімы, частка беларускае зямлі. Ніколі не забуду, як дзьве дзяўчыны Ніна Каваль і Рая Станкевіч у захапленьні тлумачылі аднэй Амэрыканцы пра Беларусь і пры гэтым пасварыліся між сабой. Кажная хацела лепш, ясьней растлумачыць; энэргія, нацыянальны гонар і зацятасьць знайшлі сабе ўпуст у спрэчцы, яны зусім забылі аб той жанчыне, якая стаяла і глядзела на іх, нічога не разумеючы. Як добра, што нашая моладзь спрачаецца на такія, а ня іншыя тэмы. У маленькім гаршчэчку, які я прывезла яшчэ зь Беларусі, я раптам неяк заўважыла крыху зьвяўшыя палявыя рамонкі. Ня ведаю, чыя рука іх туды паклала, але ўражаньне застаецца незабыўнае.

### Ці варта прыймаць удзел у выстаўцы ў будучыні?

Бязумоўна варта! Вялікі выдатак за месца вымагае ранейшага прыгатаўленьня. Выстаўковы Камітэт, на маю думку, не павінен ліквідавацца, але існаваць і надалей, навет у больш пашыраным складзе і павінен дзеіць, каб прыдбаць хоць якія сяродкі. Вельмі было-б карысным выдаць адумысловую брашуру пра Беларусь з картай. Практыка паказала, што попыт на такую інфармацыйную літаратуру быў вялікі. Патрэбным ёсьць таксама, каб іншыя нашыя нацыянальныя арганізацыі супрацоўнічылі з намі і з большым зразуменьнем ставіліся да такога высілку, якім быў наш удзел ў выстаўцы.

### Каму трэба дзякаваць?

Дзякаваць трэба, і то шчыра, усім шматлікім асобам, якія ахвотна пазычылі свае найдаражэйшыя рэчы, памяткі з дому, не пабаяліся, што прападуць. Даверылі іх нам для карысьці нацыянальнае справы. Дзякаваць трэба і тым менш колькасным, якія нешта зрабілі з рукадзельных рэчаў (вышылі ці выткалі ці пашылі на выстаўку), і тым, што ахвяравалі нейкую грашовую дапамогу і тым усім артыстым, якія выступалі на нашым канцэрце, усе бяз выключэньня бязінтэрэсоўна дзеля тае самае высокае мэты — нацыянальнае прапаганды навонкі і зусім не на апошнім месцы, тым, што прывезьлі ці адвезьлі гэтыя вартасныя рэчы — экспанаты (Сп-ру М. Тулейку і Сп-ру Ніхаёнку). Ну, здавалася-б і ўсё.

Ага, а ініцыятыўнай групе — Выстаўковаму Камітэту дзякаваць ня трэба. Калі гэтыя асобы пагаджаліся арганізаваць выстаўку, дык добра ведалі, што грамадзкая праца прыносіць часьцей за ўсё не падзяку, а наадварот. Будуць крытыкаваць нас і тым разам. Кажуць, што крытыка — пазытыўная рэч, але хіба ніхто не запярэчыць, што крытыкаваць шмат лягчэй, чымся самому нешта зрабіць.

**Сябра Выстаўковага Камітэту**

**З. Ст.**

## Ліст у Рэдакцыю

# Каб крыху паясьнела...

Паважаны Спадару Рэдактару!

На маргінэсе зацемкі «Што яснае, а што — не» («Бацькаўшчына № 38—39 з дня 18. 10. 1959) будзьце ветлівы для рэстаўрацыі праўды ў парадку журналістычнага аб'ектывізму зьмясьціць некалькі сказаў наступнага выясьненьня:

1) Беларускі-Амэрыканскі Зьвяз, як дэмакратычная арганізацыя, апіраючы сваё існаваньне на прынцыпе свабодаў думкі й слова, ня цэнзуруе сваіх прэлегэнтаў і гэтым самым ня можа несьці адказнасьці й за зьмест і якасьць іхных рэфэратаў.

2) Зьвяз не паўстаў дзеля разьбіваньня існуючых арганізацыяў наагул ці, як гэтага ананімны аўтар зацемкі вельмі баіцца, БАЗА ў прыватнасьці. Доказам гэтага можа быць навет ужо той факт, што Зьвяз ані ў прэсе ані таксама на сваіх імпрэзах ня выступаў і ня выступае супраць існуючых арганізацыяў і не забараняе сваім сябром належаньне да апошніх.

3) Зьвяз, між іншым, стварыўся для праводжаньня аб'ектыўнае й цяглае культурна-прасьветнае й грамадзкае работы сярод беларускае калёніі ў ЗША. Каб ня быць галаслоўным, хай дазволена мне будзе перадаць слова лікам, найбольш аб'ектыўным аргумэнтам у кажнай дыскусыі. Вось-жа за 10 месяцаў сваяго існаваньня (улічаючы 3 летнія месяцы, калі із прычыны сьпекі грамадзкая праца спыняецца) малы Зьвяз зладзіў 8 імпрэзаў, парушаючы на іх між іншымі тэмы: «Прамысловасьць Беларусі на мясцовай мінэральнай сыравіне», «Камуністычная партыя і незалежнасьць Беларусі», «Гісторыя Беларусі» дра Шчарбакова», »Канстытуцыя IV і V Француской Рэспублік», «Агульныя працы зь гісторыі Беларусі» і г. д.

4) Гіронія ды скрытая радасьць аўтара зацемкі з прычыны малой фрэквэнцыі слухачоў на апошнім рэфэраце Зьвязу што найменш не на месцы. Што раз больш пашыранаяся абыякавасьць беларускага грамадзтва да грамадзкіх і культурных імпрэзаў зьяўляецца вельмі сумным і, на глыбокі жаль, амаль агульным зьявішчам.

5) Дыскусія на апісываным аўтарам зацемкі вечары Зьвязу, сьціраваная ім ды яшчэ аднэй асобаю ў сфэру асабістых дачыненьняў ды пытаньняў нічога супольнага немаючых із тэмаю рэфэрату, была зачынена мною пасьля інтэрвэнцыі адміністратара будынку. Голасу (трэйці раз) не дастала толькі адна шумна-вядучая сябе асоба, культурны ўзровень каторай прыходзіцца разцэніваць па гуку зь якім яна зачыніла дзьверы апушчаючы залю зборкі.

6) Калі-б аўтар зацемкі быў здольны здабыцца на аб'ектыўнасьць, то яму ня было-б патрэбы стаўляць пытаньня: «што яснае, а што не»? Яму напэўна стала-б ясным, што, між іншым, ягоная й яму падобных неталеранцыя да інакш думаючых у вялікай меры зьяўляецца прычынаю ўзросту абыякавасьці беларускага грамадзтва ў ЗША да нацыянальных і культурных патрэбаў, уцёкаў сяброў із г. зв. «найбольшых» арганізацыяў, паўставаньня новых арганізацыйных формаў і г. д. Ён зразумеў-бы таксама й сутнасьць элемэнтарнай і бясспрэчнай праўды, што ніякая ў сьвеце грамадзкая арганізацыя не зьяўляецца **самамэтаю**, а толькі **сяродкам да мэты.** Зразумеўшы гэта, ён напэўна не ацэньваў-бы арганізацыяў паводля іх груповай прыналежнасьці ці суб'ектыўных сымпатыяў, а паводля праводжанай апошнімі працы і ня пісаў-бы падобнага роду зацемак, а накіраваў-бы свае здольнасьці ў больш творчым кірунку.

**М. Шчорс,** старшыня часовага ураду Беларуска-Амэрыканскага Зьвязу

### ШУКАЮЦЬ

Брата **Івана Сілівончыка,** сына Язэпа, родам зь вёскі Брадок Антопальскага раёну Берасьцейскай вобласьці, 1920 году нараджэньня, шукаюць родныя. Весткі — на адрыс Адміністрацыі «Бацькаўшчыны».

*Кутон мовы*

## *Уладзімер ці Валадзімер?*

Слова гэтае складанае. У другой часьці яго ёсьць **мер**. Гэтую другую часьць у нас блізу ўсе правільна, зн. як **мер** (а ня «мір»), і ўжываюць. Гэтае-ж **мер** ёсьцека ў імені «Казімер». У Расейцаў **мер** заменена на **мір** пад уплывам слова «мір».

Што да першае часьці, дык у нашым друку цяпер часта няправільна ўжываюць яе ў форме **Уладз-,** каторая з расейскага баўгарызму **Влад-** (**в** перад сугукам у вымове беларускай пераходзе **ў** **ў** або **ў** **у**, а **д** перад **і** — у **дз**). Ад пачатку аж да апошняга часу ўсе Беларусы вымаўлялі Валадзімер, а пісалі ў старабеларускай мове літаратурнай «Володимер» (тады быў этымалягічны правапіс), а ў новай літаратурнай мове беларускай **Валадзімер**; гэта маем у ўсіх (а іх мнóства) памятках беларускіх.

У мове праславянскай першая часьць гэтага слова была **волд,** каторае з дыфэрэнцыяцыяй прасл. мовы ў вадных мовах, у тым ліку ў нашай, перайшло ў **волод,** у другіх — у **влад,** у трэйціх — у **влод.** У мове беларускай **волод,** з прычыны аканьня, прыймае формы **волад, валод, валад.** Апрача ў «Валадзімеры», маем гэты карэнь у словах «воласьць» (з «володть»), «валодаваць» (рукою, нагою, языком), «Валодзька», «Валодзя» (памяншальныя формы ад «Валадзімер»), у прозьвішчу «Валадкевіч», у імені «Валадзіслаў» (правільная форма беларуская замест польскага чэхізму «Уладыслаў») і інш.

Слова «ўлада» у нас чэхізм, ужываны ўжо ў XVI стг.; мусім яго ўжываць, бо свайго слова замест яго няма. Але «Валадзімер» увесь час было й ёсьць, дык яго й трэба ўжываць.

Зацемлю, што ў «Валадзімер» а «Казімер» націск на перадапошнім складзе.

**Я. Ст.**



**НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ**

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**
**Выдавец: Уладзімер Бортнік**
**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**
**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**